16 лютага 2018 | № 5 (568)

Новы час

novychas.by

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

Сабакі і Алімпіяда

Стар. 9

ISSN 2218-2144





4 ДЫКТАТУРА І ВЫБАРЫ

Сучасныя аўтарытарныя рэжымы, і беларускі ў іх шэрагу не з'яўляецца выключэннем, не для таго арганізуюць выбары, каб саступіць сваю манаполію на ўладу

5 ЖЫВІ, ВЯСКОВАЯ БІБЛІЯТЭКА!

Раней кнігі ў бібліятэках давалі толькі на адну ноч, «а цяпер выдаюцца хоць на месяц, хоць на тры, але людзям ужо гэта не трэба»



6–7 «МЫ СПАЛІ АПРАНУТЫЯ, КАБ, КАЛІ ШТО, АДРАЗУ БЕГЧЫ Ў СКЛЕП...»

Міхаіл і Ліля прыехалі ў Гомель з Дэбальцава. Сям'я выехала з горада 28 снежня 2014 года. А ў лютым горад быў узяты баевікамі ДНР

10–11 «ЯК АРХОНТ МЁРТВАГА ГОРАДА...»

Шмат нашых суайчыннікаў дасягнулі сусветнай вядомасці. Адзін з іх — Караль Касцюшка-Валюжыніч — заснавальнік і першы дырэктар музея старажытнага Херсанеса

# Звыклы сцэнар, прадказальны вынік?

## Кампанія па выбарах дэпутатаў мясцовых саветаў выходзіць на фінішную прамую



Валерый КАРБАЛЕВІЧ

У грамадскім транспарце гучаць настойлівыя заклікі галасаваць датэрмінова. Але кампанія праходзіць вяла. Мясцовыя выбары у Беларусі мала каго цікавяць. Бо насамрэч выбараў у нас няма, і людзі ўсё больш гэта разумеюць. А яшчэ таму, што няма рэальнага мясцовага самакіравання.

Выбары ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму — гэта цікавы палітычны феномен, які праяўляецца па-рознаму нават у дзяржавах з аднатыпнымі рэжымамі. Іх функцыя заключаецца не ў тым, каб забяспечыць рэальны выбар народа з некалькіх варыянтаў, а ў легітымізацыі дзеючай улады.

Такія выбары маюць шмат асаблівасцяў. Тут мала выканаць знешнюю форму. Прынцыпова важна, каб народ паверыў, што гэта сапраўды выбары, чаго не патрабуецца, напрыклад, у таталітарнай сістэме. Таму істотная ўмова іх правядзення — захаванне пэўных фармальных працэдур: наяўнасць некалькіх кандыдатаў, уключаючы прадстаўнікоў ад апазіцыі; правядзенне агітацыйнай кампаніі, у тым ліку ў дзяржаўных СМІ; магчымасць галасавання за любога з прэтэндэнтаў і інш. Аднак усё гэта — форма, дэмакратычная абгортка.

Галоўнае прынцыповае адрозненне беларускіх выбараў ад сапраўдных свабодных выбараў заключаецца ў ролі дзяржавы. Аксіёма дэмакратычнай выбарчай кампаніі — нейтралітэт дзяржаўных інстытутаў, іх неўмяшанне ў барацьбу розных кандыдатаў і палітычных сіл. У Беларусі ж органы ўлады — галоўны акцёр на выбарчай сцэне. На забеспячэнне патрэбнага выніку працуе ўся дзяржаўная машына.

Створаная ў Беларусі выбарчая машына добра адладжаная, даведзена да аўтаматызму, працуе без збояў і ў любы момант гатовая забяспечыць патрэбны вынік. Для гэтага выкарыстоўваюцца самыя разнастайныя механізмы і тэхналогіі.

Перш за ўсё прэзідэнцкая вертыкаль ўстанавіла поўны кантроль над выбарчымі камісіямі. Туды амаль не дапускаюць прадстаўнікоў апазіцыі, а ўключаюць толькі людзей, лаяльных уладзе. У Беларусі, як і ў СССР, працоўныя калектывы — суб'екты выбарчага працэсу. Датэрміновае галасаванне, у якім ўдзельнічае 20-30 працэнтаў выбаршчыкаў, забяспечвае галасы на карысць праўладных кандыдатаў. Плюс непразрысты падлік галасоў.

Цяперашнія выбары праходзяць па звыклым сцэнары. З 10,5 тысяч членаў тэрытарыяльных выбарчых камісій апазіцыю прадстаўляюць толькі 7 чалавек.

З гэтай нагоды старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзія Ярмошына вылучыла цудоўную аргументацыю. Здавалася б, беларускія выбары ўжо нічым не могуць здзівіць. Аднак, не. У інтэрв'ю часопісу «Беларуская думка» старшыня Цэнтрвыбаркама, прадэманстраваўшы ўсю моц сваёй палітычнай думкі, заявіла: «Што тычыцца неўключэння ў склады камісій прадстаўнікоў апазіцыі… Пры фарміраванні выбарчых камісій ацэньваецца ў першую чаргу здольнасць прэтэндэнта працаваць у калектыве. Бо выбарчая камісія — калектыў, дзе выпінанне свайго палітычнага меркавання шкодзіць агульнай справе. Думаю, менавіта гэта акалічнасць ўлічвалася пры ўключэнні прадстаўнікоў апазіцыйных структур у выбарчыя камісіі».





Фота www.ctv.by

Тут усё пастаўлена з ног на галаву. Для чаго праводзяцца выбары? Ва ўсіх краінах свету — для таго, каб забяспечыць легітымнасць улады. Самі выбаркамы — гэта сродак дасягнення дадзенай мэты. Прысутнасць апазіцыі ў выбарчых камісіях — дадатковы фактар легітымізацыі.

А ў Беларусі ўсё наадварот. Сэнс выбараў, па словах Лідзіі Ярмошынай, — гэта забеспячэнне псіхалагічнага камфорту выбарчых камісій. Легітымнасць выбарчага працэсу — на другім плане. Сродак ператвараецца ў самамэту. Для таго каб выбарчым камісіям было камфортна, ахвяруюць легітымнасцю і саміх выбараў, і створаных у выніку іх органаў улады — мясцовых саветаў. Гэта здзек з сэнсу выбарчага працэсу.

Па словах Лідзіі Ярмошынай, толькі пры абранні дэпутатаў Мінскага гарадскога і Магілёўскага абласнога саветаў у кожнай выбарчай акрузе будзе альтэрнатыва. У іншых абласцях пры выбары абласных саветаў шмат безальтэрнатыўных акруг. У Гродзенскай вобласці такіх больш за палову. А ў саветах ніжэйшага ўзроўню, казала Лідзія Ярмошына, у гэтым сэнсе справы яшчэ горш. Калі лічыць груба, то на 18 тысяч дэпутацкіх месцаў прэтэндуе трохі больш за 22 тысячы прэтэндэнтаў.

Улады так доўга змагаліся з выбарамі, што нарэшце дасягнулі мэты. Мясцовыя выбары не цікавыя ні ім самім, ні апазіцыі, ні грамадству.

Але ўлады загадзя падрыхтаваліся да такога фіналу, яшчэ раней унёсшы змены ў выбарчае заканадаўства. Не ўсе, мусіць, ведаюць, што з 2013 года дзейнічае норма, паводле якой, мясцовыя выбары праходзяць па мажарытарнай сістэме аднаснай большасці. Гэта значыць, толькі ў адзін тур, другі тур не прадугледжаны. Прычым, адсутнічае парог яўкі, выбары адбудуцца, колькі б выбаршчыкаў не прыйшло на выбарчыя ўчасткі. Цяпер выбары можна праводзіць і без выбаршчыкаў, дакладней, з іх мінімальнай колькасцю. Тобок, калі з 1000 выбаршчыкаў у акрузе на ўчасткі прыйдзе 10 чалавек, з іх 3 прагаласуе за кандыдата Х, а астатнія кандыдаты атрымаюць па 2 галасы, то пераможцам будзе абвешчаны Х.

Такім чынам, выбары ператварыліся ў тэхнічны працэс галасавання, бюракратычную працэдуру, звыклы рытуал, які ні на што не ўплывае.

16 лютага 2018 | № 5 (568) Новы Час

# Знялі з выбараў за «Народную Волю»

**Прамоўцу Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, кандыдата ў дэпутаты ў Мінгарсавет па Матусевіцкай выбарчай акрузе №33 Галіну Каржанеўскую 13 лютага Фрунзенская выбарчая камісія зняла з выбараў. Афіцыйная прычына — распаўсюджанне ўдзельнікамі яе пікета газеты «Народная Воля».**

У газеце сярод іншага быў надрукаваны і матэрыял пра Галіну Каржанеўскую.

Гэта было другое папярэджанне, вынесенае Галіне Каржанеўскай. Першае тычылася яе плакатаў. Як адзначыў адказны сакратар БХД Дзяніс Садоўскі, рашэнне аб зняцці з выбараў будзе абскарджвацца ў Мінскай гарадской камісіі.

«Камісія парушыла не толькі выбарчае заканадаўства, але мае месца факт парушэння свабоды сродкаў масавай інфармацыі, бо падставай для зняцця незалежнага кандыдата стала тое, што на пікеце раздалі некалькі асобнікаў "Народнай Волі", якая прадаецца ва ўсіх кіёсках, у тым ліку на тэрыторыі гэтай акругі. Лагічным наступным крокам Цэнтрвыбаркама будзе забарона ўсім незалежным СМІ друкаваць інфармацыю пра кандыдатаў, калі яна не праплачана. Гэты прыклад — не толькі парушэнне выбарчага заканадаўства, але і працяг цынічнага беспрынцыповага знішчэння свабоды слова ў нашай краіне», — адзначыў сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі.

У сваю чаргу сустаршыня БХД Вольга Кавалькова падкрэсліла, што, паводле Выбарчага кодэкса, пры наяўнасці двух папярэджанняў выбарчая камісія можа, але не абавязаная здымаць кандыдата. «Улічваючы, што Галіна Анатольеўна не была зарэгістравана камісіяй ад пачатку і яе нерэгістрацыю давялося абскарджваць у Мінскай гарадской камісіі, я думаю, што гэта мэтанакіраванае зняцце кандыдата з выбараў. Увогуле ж, паводле скаргаў, пададзеных кандыдатамі ў дэпутаты ў Мінскую гарадскую камісіі, Фрунзенская раённая камісія — самая некампетэнтная», — падкрэсліла яна.

**Паводле БХД**

# «Гэта была ўжо трэцяя спроба нападу на мяне...»

**Палітвязень Міхаіл Жамчужны распавядае ў лістах на волю пра ўмовы ўтрымання ў калоніі. Тым часам у Горацкі РУУС накіравана заява аб узбуджэнні крымінальнай справы па факце пагрозы жыццю і здароўю Міхаіла Жамчужнага.**

З пачатку жніўня 2017 года адміністрацыя калоніі №9 у Горках, дзе адбывае пакаранне палітвязень, пачала выносіць спагнанні Міхаілу Жамчужнаму за адмовы пераходзіць у атрад, сфармаваны са зняволеных з «нізкім статусам». За гэта Міхаіла пастаянна караюць ШІЗА альбо змяшчэннем у ПКТ.

Не так даўно на яго адбыўся напад у калоніі, пра што Міхаіл паведаміў на волю.

«Жамчужны напісаў, што гэта быў ужо трэці выпадак спробы нападу на яго, — кажа праваабаронца Андрэй Бандарэнка, які ліставецца з Міхаілам. — Да гэтага ўдавалася пазбегнуць правакацый, паколькі яго паспявалі папярэдзіць іншыя зняволеныя. Аднак пасля 8 лютага, калі Жамчужны павінен быў выйсці з памяшкання камернага тыпу, лістоў ад яго не было. Днямі Міхаіла збіраецца наведаць у калоніі адвакат, таму, магчыма, з'явіцца нейкая дадатковая інфармацыя».

Са слоў Андрэя Бандарэнкі, у сувязі з гэтай сітуацыяй накіраваны зварот у Дэпартамент выканання пакаранняў, скарга пракурору па наглядзе і заява аб узбуджэнні крымінальнай справы па факце пагрозы жыццю і здароўю Міхаіла Жамчужнага ў Горацкі РУУС.

«Дэпартамент выканання пакаранняў, як правіла, абмяжоўваецца кароткім адказам, што мы не з'яўляемся блізкімі Міхаіла, а значыць не можам ажыццяўляць абарону яго правоў, — дадае ён. — На іх думку, абарона чалавека павінна сыходзіць толькі ад блізкага роднага. А калі такіх няма і няма сродкаў на адваката, то ніякіх правоў у асуджаных таксама няма. Што датычыцца Горацкага РУУС, то заяву туды мы падалі тыдзень таму, але адказу пакуль ніякага няма».

***

Заснавальнік «Платформ Інавэйшн» Міхаіл Жамчужны ў ліпені 2015 года быў асуджаны Віцебскім абласным судом на 6 гадоў зняволення ў калоніі строгага рэжыму. 23 кастрычніка судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда разгледзела касацыйную скаргу і прызначыла Жамчужнаму больш строгае пакаранне — шэсць з паловай гадоў пазбаўлення волі.

Ён быў прызнаны вінаватым у здзяйсненні злачынстваў, прадугледжаных арт. 376 (часткі 1 і 2), часткі 5 арт. 16, арт. 375 (частка 1) і арт. 431 (часткі 1 і 2): падбухторванне да наўмыснага разгалашэння звестак, якія складаюць службовую таямніцу; незаконнае набыццё і збыцё спецыяльнага тэхнічнага сродку, прызначанага для сакрэтнага атрымання інфармацыі, у тым ліку — паўторна; дача хабару і дача хабару паўторна.

Беларускімі праваабаронцамі Міхаіл Жамчужны прызнаны палітвязнем.

**palitviazni.info**




Фота www.racyja.com

# Плакаты да гадавіны Лагера абароны Курапатаў

**Грамадскія актывісты вырабілі плакаты, прысвечаныя «Ночы расстраляных паэтаў». Плакаты перададуць гаспадарам пляцовак, якія пагодзяцца іх змясціць у публічнай прасторы для пашырэння памяці пра сталінскія рэпрэсіі.**

20 лютага 2017 быў выстаўлены Лагер абароны Курапатаў — пратэстны лагер на пляцоўцы насупраць дома 49 па вул. Мірашнічэнкі ў Мінску. Актывісты дамагаліся спынення будаўніцтва офіснага цэнтра на спрэчнай тэрыторыі, якая знаходзілася ў ахоўнай зоне Курапацкага ўрочышча. Змаганне было паспяховым, і праз два тыдні будоўлю спынілі, а лагер быў зняты.

Да гадавіны падзеі актывісты выпусцілі плакаты, прысвечаныя «Ночы расстраляных паэтаў». Гэтую дату лічаць сімвалам сталінскіх рэпрэсій, ад якіх пацярпела ад 600 да 1400 тысяч жыхароў Беларусі. Грошы на выданне былі сабраныя падчас існавання лагера.

«На плакаце вертыкальна змешчаны імёны 132 расстраляных у ноч 29 кастрычніка 1937, ствараючы форму гукавай хвалі і лінію біцця сэрца, якую рассякае куля. След ад кулі павялічваецца, сціраючы літары ў імёнах, і чым далей, тым складаней прачытаць. Сціраюцца імёны, а з імі і памяць пра падзею. Плакат створаны, каб памятаць», — апавядае аўтар ідэі, мінскі дызайнер Аляксандр Чабатароў.

Усяго было выпушчана 100 плакатаў, на кожным пазначаны яго парадкавы нумар. Для распаўсюджвання інфармацыі пра сталінскія рэпрэсіі актывісты стварылі адмысловае відэа, што ілюструе падзеі ночы 29 кастрычніка 1937 года.

**Паводле медыяслужбы Грамадскага руху «Дзея»**

# Чаго чакаць ад беларускага рубля?

**Прагнозы экспертаў не абнадзейваюць: у найбліжэйшы час на беларускі рубель будзе негатыўна ўплываць шэраг знешніх фактараў.**

Жанна Кулакова, фінансавы кансультант TeleTrade (ТАА «ТелетрейдБел»), адзначае:

— На працягу многіх апошніх месяцаў беларускі рубель практычна не адчуваў істотнага ціску з боку знешніх фактараў. Хутчэй, наадварот — збольшага дзякуючы знешнім абставінам 2017 год выдаўся для валютнага рынку Беларусі ўдалым. Нафта няўхільна даражэла з чэрвеня мінулага года, дзякуючы чаму заставаўся стабільным валютны рынак Расіі. Паслабленне беларускага рубля да кошыка на 6% па выніках 2017 года для многіх беларусаў прайшло непрыкметна, паколькі курс долара практычна не змяніўся. Гэта таксама звязана са знешнімі фактарамі: у Беларусі амерыканская валюта стаяла на месцы дзякуючы таму, што на міжнародным рынку падала.

Вышэйапісаныя тэндэнцыі захоўваліся на знешніх рынках і ў студзені 2018 года, але сітуацыя мяняецца. Долар занадта моцна ўпаў за апошні час і цяпер, верагодна, умацуецца. Гэта можа адбыцца, па-першае, таму што фундаментальных эканамічных перадумоў для такога падзення амерыканскай валюты няма — хутчэй, наадварот, ёсць перадумовы для росту (у прыватнасці, рост ключавой стаўкі ФРС). А па-другое, на фондавым рынку ЗША намецілася падзенне.

Прагназаваць яго з упэўненасцю нельга, але такая верагоднасць ёсць. Асноўныя фондавыя індэксы ЗША практычна безупынна раслі з 2009 года. За гэты перыяд S&P 500 вырас прыкладна ў 4 разы, DJI — у 3,5 разы. На фондавым рынку з'явіліся прыкметы біржавога пузыра: суадносіны яго капіталізацыі да ВУП ЗША ў пачатку лютага склалі 137% пры тым, што нормай лічыцца значэнне каля 80%. У шэрагу выпадкаў завышаным выглядае і каэфіцыент P / E (адносіны капіталізацыі да прыбытку кампаній).

Ціснуць на фондавыя індэксы можа і павышэнне працэнтных ставак. Крэдыты, якія падаражэлі, пагаршаюць умовы для вядзення бізнесу, і грошы пачынаюць перацякаць з акцый у аблігацыі і долары ЗША, інвестыцыйная прывабнасць якіх, наадварот, павялічваецца. На гэтым фоне долар можа расці.



Фота www.tech.onliner.by

Калі долар пойдзе ў рост на міжнародным рынку — гэта пацягне за сабой рост курсу долара і ў Беларусі. Акрамя таго, сітуацыя можа пагоршыцца тым, што на нафтавым рынку намецілася падзенне. Ад пачатку лютага барэль Brent знізіўся больш чым на 10% з 70 да 62,5 долараў, расійскі рубель на гэтым фоне аслабеў на 2,5%. Гэтыя ваганні на нашым рынку пакуль што згладжваюцца праз умацаванне беларускага рубля да расійскага (курс расійскай валюты ў Беларусі упаў прыкладна на тыя ж 2,5%, — з 3,52 да 3,44 рубля), але гэта часова: у перспектыве курс будзе вяртацца да адзнакі 3,5. Калі на расійскім рынку пры гэтым захаваюцца негатыўныя тэндэнцыі, рост курсаў долара і еўра ў Беларусі можа паскорыцца.

Вышэйапісаны сцэнар, зразумела, не гарантаваны, але ён магчымы, і пра гэта трэба памятаць. Што тычыцца доўгатэрміновага прагнозу, то вялікая верагоднасць, што еўра ў Беларусі будзе даражэць хутчэй за долар, паколькі манетарная палітыка ЕЦБ у доўгатэрміновай перспектыве можа прывесці да ўмацавання еўра адносна долара.

**Паводле Simple Agency**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Слова — не верабей...

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Уменне чытаць між радкоў — адно з найлепшых, што нам дасталася з савецкай спадчыны. Аднак і гэтае ўменне, як і СССР, адыходзіць у нябыт і становіцца непатрэбным. Сапраўды, навошта, калі нашы чыноўнікі проста рэжуць праўду-матку і кажуць, як ёсць.**

Зразумела, мінулы тыдзень праходзіў пад знакам выбараў у мясцовыя саветы. З гэтай нагоды кіраўніца Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына напачатку датэрміновага галасавання спрагназавала высокую яўку выбаршчыкаў.

Па яе словах, у нас датэрмінова прыходзіць галасаваць «звычайна каля 30% выбаршчыкаў». «Думаю, што нічога не зменіцца і на дадзены момант. Мы дзесьці на такую лічбу і выйдзем. Можа, гэта будзе 25%, можа, 32%. Цяжка сказаць», — заявіла Лідзія Ярмошына і адзначыла, што многія выбаршчыкі ўжо прывыклі галасаваць датэрмінова.

Але ці такі ўжо прадказальны народ — беларусы? Здаецца, мінулай зімою, выступіўшы супраць «дармаедскага дэкрэта», яны ўсіх здзівілі. І пасля гэтага словы Ярмошынай кажуць толькі пра тое, што яўка на мясцовыя выбары — прадвызначана. Магчыма, як і вынік гэтых выбараў. То-бок, ніякага выбару, насамрэч, не існуе. Як казалі героі камеды Гайдая: «Усё ўжо скрадзена да нас».

Нечаканым былі і выказванні на тыдні Аляксандра Лукашэнкі. Зазвычай пра дрэнную працу і паводзіны міліцыянтаў мы чуем толькі ў недзяржаўнай прэсе і ў інтэрнэце. Што дае падставы кіраўніцтву МУС заяўляць: маўляў, супраць ведамства вядзецца сапраўдная інфармацыйная вайна. А на вайне, як на вайне — ворагаў адстрэльваюць. Аднак зараз да гэтай інфармацыйнай вайны далучыўся сам Аляксандр Рыгоравіч.

Па-першае, у ходзе пасяджэння Савета Бяспекі, якое адбылося ў Мінску, ён звярнуў увагу на праблему ДТЗ з удзелам супрацоўнікаў органаў унутраных спраў. «Пра якi аўтарытэт міліцыі можна тады казаць? Пытанне да міністра: у чым справа? Якія захады прымаюцца па выкараненні такіх фактаў?» — жорстка звярнуўся Лукашэнка да кіраўніка МУС Ігара Шуневіча.

Не выключана, што падставай для такога звароту стала ДТЗ у Глуску, дзе п'яны кіроўца збіў двух падлеткаў на тратуары. СМІ ў адкрытую заяўляюць, што за рулём Audi знаходзіўся 22-гадовы супрацоўнік РАУС, аднак МУС да гэтага часу так і не пацвердзіла гэтую інфармацыю.

Пасля смяротнай аварыі, вінаватым якой стаў выконваючы абавязкі начальніка ДАІ Баранавіцкага раёна, кіраўнік УДАІ МУС Дзмітрый Карзюк назваў гэты выпадак «ганьбай для службы». «У нас вядзецца пастаянная праца з асабовым складам, прад'яўляюцца высокія патрабаванні да абітурыентаў, і мы будзем рабіць усё магчымае, каб такія людзі не працавалі ў ДАІ», — пракаментавала тады той выпадак старшы інспектар па асаблівых даручэннях упраўлення ДАІ МУС Ганна Банадык.

Мяркуючы па зноў актуалізаванай праблеме выканання закона супрацоўнікамі міліцыі, прынятыя пасля выпадку ў Баранавіцкім раёне захады Лукашэнку не задаволілі.

Па-другое, на тым жа пасяджэнні беларускі правадыр запатрабаваў жорсткага пакарання для «круцякоў» на квадрацыклах і снегаходах, якія швэндаюць па сельгасугоддзям. «Пытанне да міністра ўнутраных спраў адно: калі будзе наведзены парадак? Парадак ва ўсім, каб мне не адпісвалі, што там некаторыя "круцякі" ў нас з'явіліся. Гэта ж не дзеці простых людзей. А самі "крутыя" і іх дзеткі сёння на квадрацыкле, снегаходзе пайшлі па азімых, па палях, на што я звяртаў увагу, а вы мне адпісі пішаце», — абрынуўся на міністра кіраўнік дзяржавы.

**Ці такі ўжо прадказальны народ — беларусы? Мінулай зімою, выступіўшы супраць «дармаедскага дэкрэта», яны ўсіх здзівілі. І пасля гэтага словы Ярмошынай кажуць толькі пра тое, што яўка на мясцовыя выбары — прадвызначана. Магчыма, як і вынік гэтых выбараў. То-бок, ніякага выбару, насамрэч, не існуе**

Зразумела, большасць пры гэтым узгадала знакаміты фотаздымак жніўня 2017-га, калі Лукашэнка праехаўся па полі каля роднай вёскі на дарагім квадрацыкле коштам прыкладна 26 тысяч долараў. Аднак у гэтай прамове ёсць больш важная рэч. І гэта не тое, што Аляксандр Рыгоравіч клапоціцца пра азімыя — гэта звыкла. І нават не тое, што ён загадаў забіраць транспартныя сродкі за перасоўванне па засеяных палях.

Гэта фраза «вы мне адпіскі пішаце». Аказваецца нашы чыноўнікі настолькі знахабнелі, што пішуць адпіскі не толькі звычайным людзям, але і самому кіраўніку дзяржавы! Вельмі цікава, што ж там было такога напісана, што ўзрушыла нават Лукашэнку? «Ваш зварот перададзены для разгляду ў Адміністрацыю прэзідэнта»?

На фоне такіх гучных заяў мімаходзь прайшла інфармацыя пра тое, што Нацбанк у чарговы раз знізіў стаўку рэфінансавання. Ад гэтай стаўкі залежаць працэнты па ўкладах насельніцтва і кошт выдадзеных крэдытаў. Яны, адпаведна, зменшыліся.

Цікава, што зараз стаўка рэфінансавання складае 10,5% гадавых. Раней прадстаўнікі галоўнага банка краіны казалі, што самая ніжняя мяжа значэння стаўкі па выніках года — 9,5-10,5%. То-бок, мы ўжо ў лютым атрымалі верхнюю планку ніжняй мяжы.

Чаму зніжэнне кошту крэдытаў важнае для ўсіх? Таму што, па статыстыцы, апублікаванай тэлеканалам «Белсат», рэальныя заробкі беларусаў падаюць тры гады запар. І зараз багатымі лічацца ўжо тыя, хто зарабляе больш за 600 рублёў у месяц, і знайсці такіх людзей можна толькі ў буйных гарадах.

Таму крэдыты на самыя розныя патрэбы робіцца для людзей усё больш і больш актуальнымі.

Інфармацыя пра «багатых за 600 рублёў» прымушае задумацца, бо на гэтым жа тыдні ў суседняй Літве старшыня Рэспубліканскага аб'яднанага прафсаюзаў Арвідас Дамбраўскас прапанаваў падняць мінімальны заробак амаль да 600 еўра, а дакладней да 593 еўра.

Цяпер мінімальны заробак у Літве з 1 студзеня 2018 года складае 400 еўра. І Літва лічыцца яшчэ «беднай» краінай — па памеры мінімальнага заробку яна апярэджвае толькі Балгарыю.

Параўнайце нашы «багатыя» 600 рублёў (244 еўра) і літоўскія «жабрацкія» 400 еўра. І пры гэтым той жа Дамбраўскас заўважае: «Рызыка галечы ў 2016 годзе складала 282 еўра на аднаго чалавека».

То-бок, нават нашы багацеі ў суседняй краіне апынуліся б за мяжой галечы! А што казаць пра «не-багацеяў»?

Канешне, з тэлеэкранаў нам будуць сцвярджаць, што ў нас — стабільнасць, а Еўропа поўная геяў, мігрантаў і тэрарыстаў. Але чаму пры нашай стабільнасці мы жывём горш за тых жа еўрапейскіх геяў, мігрантаў і тэрарыстаў? І добра было б нешта змяніць, але...

Але Лідзія Ярмошына ўжо падлічыла, колькі беларусаў прагаласуюць датэрмінова.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Анатоль Лябедзька



**Нядаўна лідара Аб'яднанай грамадзянскай партыі затрымалі супрацоўнікі ДАІ і пакаралі за язду без правоў. Гэты факт не абмінула нават беларускае тэлебачанне.**

Палітык сцвярджае: дакументы яму не выдаюць па надуманых прычынах.

«Я вяду актыўны лад жыцця: футбол, бег, ровар. У памінулым годзе ў маі я ехаў на ровары непадалёк ад Плошчы дзяржаўнага сцяга, праехаў каля групы амапаўцаў і людзей у цывільным і страціў прытомнасць. Памятаю, калі апрытомнеў, вакол мяне мітусіліся людзі, але гэта былі не амапаўцы. У нармальны стан я прыйшоў у машыне "хуткай дапамогі". Яны сказалі, што адпусціць адразу мяне не могуць, таму адвезлі на абследаванне. Там я прайшоў тамаграфію: ніякіх адхіленняў не зафіксавана, усё ў норме. Гэта за 55 гадоў майго жыцця быў першы выпадак, калі я страціў прытомнасць», — тлумачыць Лябедзька.

Ён забыўся на гэты выпадак, пакуль не падышоў тэрмін замены пасведчання кіроўцы. «Я прайшоў усіх лекараў, а калі трэба было атрымаць даведку, раптам паўсталі праблемы: "У вас быў эпізод, калі страцілі прытомнасць". І што? Ёсць выпіска з лякарні за той дзень, што ў мяне ўсё ў норме. Але мне сказалі, каб яшчэ раз прайшоў абследаванне. І я прайшоў — на самай дасканалай апаратуры, якая пацвердзіла, што ўсё добра. Але камісія з трох чалавек вырашыла, што не можа мне выдаць даведку пасля той страты прытомнасці», — патлумачыў Лябедзька.

Ён настойвае, што ўсё гэта — скіраваныя супраць яго правакацыі спецслужбаў. «Лекары ў кулуарах казалі, што не яны прымаюць рашэнне ў маёй сітуацыі», — дадаў палітык.

## Уладзіслаў Завальнюк




**Пробашч Чырвонага касцёла ў Мінску заклаў сваю кватэру, каб замовіць для храма тры званы. Пра гэта сам святар распавёў парафіянам пасля імшы.**

Па словах айца Завальнюка, тры званы будуць каштаваць 70 тысяч. Частку сумы ўжо ахвяравалі людзі, засталося сабраць 50 тысяч еўра.

«Калі не збяром гэтых грошай самі, то я прадам сваю кватэру і буду жыць у парафіяльным доме», — распавёў айцец Уладзіслаў CityDog.by.

На днях клірык збіраецца замовіць званы ў фірмы RDUCH ў Польшчы. У Чырвоным касцёле павінна з'явіцца тры музычныя інструменты: звон Святога Міхала Арханёла вагой у 1200 кг і танальнасцю E1 (mi) — 35 тысяч еўра; звон Слугі Божага Эдварда Вайніловіча вагой 700 кг і танальнасцю G1 (do) — 20 тысяч 500 еўра і звон Святога Сымона вагой 500 кг і танальнасцю A1 (la) — 14 тысяч 500 еўра.

## Дар'я Домрачава



**Знакамітая беларуская біятланістка зрабіла немагчымае — яна пачала падымаць беларускі легпрам.**

Домрачава нечакана выйшла на старт у спрынце не ў нейкім фірмовым адзенні сусветна вядомага брэнда, а ў звычайнай зімовай шапцы з пампонам ад беларускага вытворцы верхняга трыкатажу «Палессе».

Чаму Домрачава выйшла на старт менавіта ў гэтай шапцы? Як лічаць на прадпрыемстве, яна падыходзіць для заняткаў спортам: «Пража, з якой вырабляюць шапку, набліжаная па сваіх уласцівасцях да паўшэрсці. Трымае цяпло, не колецца, у ёй не горача і не скачваецца», — піша by.tribuna.com.

Алімпійскую форму, якую выдалі нашым спартоўцам, з канца студзеня можна набыць у беларускіх крамах. Адзення там рэальна хапае, а вось з шэрай «шапкай Домрачавай» ужо паўсталі праблемы: галаўныя ўборы пасля старту Домрачавай з прылаўкаў літаральна змялі. Каштуюць такія шапкі ўсяго 13 рублёў.

«Попыт рэальна велізарны. Пасля таго, як Дар'я прабегла ў шапцы, ён будзе адназначна захоўвацца. Домрачава справакавала інтарэс. Было выпушчана 950 такіх шапак — цяпер іх практычна не засталося. Мне тэлефанавала дызайнер Людміла Лабкова. Яна не магла знайсці камплекты ў Мінску. Да нас звярталіся заўзятары нават з Нью-Ёрка», — распавядае начальнік аддзела маркетынгу «Палесся» Таццяна Анташук.

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Дыктатура і выбары

## Нават псеўдавыбары даюць апазіцыі дадатковы шанец для рашэння тактычных задач

Мая папярэдняя Азбука паліталогіі была прысвечана стратэгіі апазіцыі. Нагадаю асноўную ідэю. Ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму апазіцыя (не блытаць з псеўдаапазіцыяй) можа быць толькі рэвалюцыйнай. З гэтага сцвярджэння, аднак, не вынікае, што ўсю сваю энергію прафесійным апазіцыянерам неабходна накіроўваць на падрыхтоўку рэвалюцыі. Рэвалюцыю бессэнсоўна рыхтаваць, да рэвалюцыі трэба рыхтавацца.

Тэма стратэгіі апазіцыі знайшла нечаканы працяг на «Партызане» ў артыкуле «Выбары і дыктатура» палітолага Паўла Усава. Прывяду першы абзац: «Прыхільнікі ўдзелу ў сфальсіфікаваных выбарах у Беларусі прыводзяць масу розных, часам дзіўных довадаў, якія павінны апраўдаць "актыўны" ўдзел беларускай апазіцыі ў выбарчым працэсе. Яны спрабуюць пераканаць сваіх апанентаў і выбаршчыкаў, што з дапамогай выбараў, арганізацыя і правядзенне якіх знаходзяцца пад поўным кантролем аўтарытарнай улады, можна змяніць гэтую самую ўладу або дамагчыся нейкіх саступак з яе боку».

З чым тут можна пагадзіцца, а з чым не?

Бясспрэчна, сучасныя аўтарытарныя рэжымы, і беларускі ў іх шэрагу не з'яўляецца выключэннем, не для таго арганізуюць выбары, каб саступіць сваю манаполію на ўладу. Калі ж у ходзе выбараў страта ўладнай манаполіі (цалкам або часткова) магчымая, то такі рэжым не з'яўляецца аўтарытарным. Пра яго можна казаць толькі як пра недастаткова дэмакратычны. Такім ён быў у Беларусі з канца 1991 г. да лета 1994 г.

Але адкуль вынікае, што зменай улады або саступкамі з яе боку павінен быць абмежаваны спіс тактычных задач апазіцыі падчас выбараў? А найбліжэйшыя задачы практычна заўсёды з'яўляюцца тактычнымі, і таму паспяховая палітыка нідзе і ніколі не выбудоўвалася па прынцыпе «усё або нічога».

Жыццё складанейшае за любыя нашы ўяўленні пра яго, дык навошта іх (уяўленні) свядома спрашчаць? Адзін гістарычны прыклад. Дзяржава «з'яўляецца там і тады, дзе і калі з'яўляецца падзел грамадства на класы, калі з'яўляюцца эксплуататары і эксплуатаваныя». Знаёмае вызначэнне, ці не праўда?

Камунізм — бяскласавае грамадства. Такім чынам, самаліквідацыя дзяржавы непазбежна. Па меншай меры ў гэтым мяне пераконвалі выкладчыкі стандартнага курса марксізму-ленінізму ў гады маёй студэнцкай маладосці. Зразумела, спатрэбіцца пераходны перыяд — сацыялізм.





У тэорыі ўсё было проста і лагічна, але на практыцы па меры руху да поўнай і канчатковай перамогі сацыялізму дзяржава замест таго, каб адміраць, бесперапынна ўзмацняла свой кантроль над эканомікай і грамадствам. Чаму? Ды таму, што пералік «абавязкаў» дзяржавы нідзе і ніколі не зводзіўся да падаўлення пратэстаў тых, каго эксплуатуюць. Адмова ж ад рынкавых механізмаў рэгулявання запатрабавала ўзмацнення адміністрацыйнага ўмяшання ва ўсе сферы жыцця. Супраць чаго бальшавікі бароліся, на тое яны і напароліся.

### Інвестары любяць выбары

Але вернемся да артыкула Паўла Усава: «Па маім глыбокім перакананні, выбары, асабліва калі яны знаходзяцца пад сістэмным кантролем аўтарытарнай улады, ніколі не з'яўляліся самадастатковым фактарам звяржэння альбо дэмакратызацыі дыктатур. Роля выбараў у гэтым працэсе была і застаецца выключна інструментальнай. Выбарчы працэс не мае ніякага практычнага значэння, калі толькі за ім не стаіць актыўнае супрацьстаянне насельніцтва палітыцы аўтарытарнай улады».

Далей на прыкладзе Чылі, Аргенціны і Нікарагуа палітолаг тлумачыць, што паспяховыя для апазіцыі выбары «з'яўляюцца толькі вынікам барацьбы з дыктатурай і ўнутранага аслаблення апошняй».

Акрамя аслаблення дыктатуры ў артыкуле пералічваюцца яшчэ тры абавязковыя ўмовы, якія спрыяюць трансфармацыі выбараў у інструмент палітычных і дэмакратычных змен:

- гатоўнасць кіруючай эліты пайсці на кампраміс з апазіцыяй / грамадствам;
- гатоўнасць аўтарытарнага кіраўніцтва правесці сумленныя і свабодныя выбары, што прадугледжвае паўсюдны кантроль з боку дэмакратычнай супольнасці за арганізацыяй і падлікам галасоў;
- кансалідацыя апазіцыі і мабілізацыя апазіцыйна настроенай супольнасці, бо толькі гэта зробіць апазіцыю самастойным палітычным гульцом, а таксама дазволіць кантраляваць усе этапы выбарчага працэсу.

Хто супраць спіса Усава? Я «за»! Вось толькі не зразумела, чаму апазіцыі не варта выкарыстоўваць выбары для вырашэння тактычных задач ва ўмовах негатоўнасці кіруючай эліты і грамадства да пераменаў.

«Калі зоркі запальваюць, значыць, гэта каму-небудзь трэба». З выбарамі — тая ж гісторыя. Аднак галоўная прычына, па якой аўтарытарныя рэжымы не могуць адмовіцца ад іх правядзення, — не ўнутраная, а знешняя. Гэта асабліва справядліва для дзяржавы, размешчанай у геаграфічным цэнтры Еўропы з аб'ёмам экспарту каля 70% ВУП.

Электаральны аўтарытарызм заахвочваецца інвестарамі. Яны разглядаюць такія рэжымы як больш стабільныя, а значыць — больш прыдатныя для інвестыцый, чым неэлектаральныя. Таму на парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі заўсёды прысутнічалі і прысутнічаюць назіральнікі не толькі з СНД, але і з Еўропы.

**Хто супраць спіса Усава? Я «за»! Толькі не зразумела, чаму апазіцыі не варта выкарыстоўваць выбары для вырашэння тактычных задач ва ўмовах негатоўнасці кіруючай эліты і грамадства да пераменаў**

З гэтай асаблівасці электаральнага аўтарытарызму беларуская апазіцыя можа атрымаць сваю маленькую выгаду ў выглядзе прамых кантактаў з заходнімі палітыкамі, што апазіцыя, дарэчы, і робіць.

### Будзем з кармамі

«Аўтарытарызм, — тлумачыць палітолаг Рыгор Галасоў, — неадэкватная сучаснаму свету форма праўлення, таму для яе захавання трэба прыкладаць асаблівыя намаганні. Але бываюць эканамічныя абставіны, якія могуць зрабіць гэтыя намаганні больш паспяховымі. Парадаксальна, але захаванню аўтарытарызму дапамагаюць два абсалютна розныя станы эканомікі: альбо бурны рост, альбо імклівы спад».

Рост беларускай эканомікі ў «нулявыя» стаў важным фактарам, які забяспечыў палітычнае даўгалецце адзінага палітыка (АП). Але сваёй перамозе на першых прэзідэнцкіх выбарах ён абавязаны не росту, а спаду. Абодва гэтыя фактары гулялі супраць арыентаванай на заходнія каштоўнасці апазіцыі. А сёння сітуацыя мяняецца і мяняецца кардынальна.

Калі крызіс 1990-х быў выкліканы зменай мадэляў, калі савецкая ўжо не працавала, а квазірынкавая яшчэ не сфармавалася, то цяперашні крызіс ёсць прамое следства поспехаў будаўніцтва ў Беларусі «моцнай дзяржавы». Менавіта сіла дзяржавы блакуе прыватную ініцыятыву, без якой немагчыма ўстойлівае развіццё ва ўмовах пераходу ад індустрыяльнай да постындустрыяльнай эканомікі.

Абмяжуюся адным прыкладам, запазычаным з выступу АП на цырымоніі ўшанавання найлепшых работнікаў аграрнай галіны 9 лютага: «Мы шмат нарыхтоўваем кармоў, а эфектыўнасць ад іх жадае быць лепшай. Першы крок — неабходны добрыя сховішчы. Рашэнні прынятыя. Урад, губернатары прынялі іх да выканання. Яны няўхільна павінны быць выкананыя. Мы атрымаем грандыёзны эфект».

Нарэшце! На зыходзе чвэрці стагоддзя знаходжання на вышэйшай дзяржаўнай пасадзе АП зрабіў першы крок у напрамку павышэння эфектыўнасці кармоў. Мяч на баку ўрада і губернатараў. Шкада, што да другога кроку ні аўтар Азбук, ні большасць яго чытачоў не дажывуць.

### «Акно магчымасцяў»

Вяртанне да ранейшых тэмпаў росту ВУП і даходаў насельніцтва ў рамках «беларускай мадэлі», што вычарпала свой рэсурс, немагчыма. Не ведаю, як урад і губернатары (яны сёння збянтэжаны будаўніцтвам добрых сховішчаў для кармоў), але большасць беларусаў гэтую сумную ісціну яшчэ не ўсвядоміла.

Вось тут і адкрываецца «акно магчымасцяў» для апазіцыі. Чаму б ім не скарыстацца, у тым ліку і падчас выбарчых кампаній? І не важна, што яны праводзяць у «сумным рэжыме». Беларускі аўтарытарызм у адрозненне ад савецкага таталітарызму абапіраецца не на мабілізацыйную энергію мас, а на іх апатыю. Тым не менш, хай і ў мінімальнай ступені, але мабілізацыйны эфект мае месца быць.

Пры гэтым неабходна памятаць, што «выбаршчык нідзе не чытае перадвыбарчыя праграмы. Гэта тое, што эканамісты называюць рацыянальнай недасведчанасцю».

Пагаджуся з Аляксандрам Аузанам, спецыялістам у галіне інстытуцыянальнай эканомікі, дадаўшы пры гэтым ад сябе, што на цяперашнім этапе развіцця «беларускай мадэлі» намаганні па яе дыскрэдытацыі маюць шанец знайсці водгук сярод апалітычнага насельніцтва.




# Жыві, вясковая бібліятэка!

Дзіяна ПІНЧУК

**Паслугамі публічных бібліятэк, па статыстыцы, карыстаецца больш за 33% жыхароў Беларусі. У той жа час ідзе імклівае скарачэнне бібліятэк вясковых. На замену ім дзяржава выдумала так званыя «бібліёбусы», кніжны набор якіх камплектуецца з фонду гарадскіх бібліятэк. У дзяржаўных СМІ кажуць, што такіх аўтобусаў у краіне ўжо каля сотні...**

Але ж вясковыя бібліятэкі — гэта не проста ўстанова. Атмасфера, якая пануе ў вясковай бібліятэцы, не параўнаецца з ніякай дзяржаўнай установай.

Мы завіталі ў адну з такіх вясковых бібліятэк, якая знаходзіцца ў аграгарадку Новыя Дарогі Старадарожскага раёна. Размяшчаецца яна, як гэта звычайна бывае, у доме культуры, побач з поштай ды сельсаветам. Гэта невялічкі пакой са старой драўлянай рыпучай падлогай.

У бібліятэцы няма вады, бібліятэкарка вымушана хадзіць у калонку ледзь не за паўкіламетры. І ў маразы таксама. Толькі нядаўна правялі ў сельсавет каналізацыю, але, каб забяспечыць бібліятэку натуральнымі ў сучаснай дзяржаве ўмовамі — нават не ідзе і гаворкі.

Канешне, бібліятэкарка робіць усё магчымае, каб завабіць наведвальнікаў: прапаноўвае гарбатку з зёлак, якія сама збірае, прыносіць варэнне і пячэ тарты і пірагі. Але, пагадзіцеся, наяўнасць прыбіральні таксама грае не меншую ролю ў наведванні таго ці іншага грамадскага месца.

Фонд бібліятэкі даволі разнастайны: суадносіны рускай і беларускай літаратуры прыкладна аднолькавыя, але гэта цалкам заслуга бібліятэкаркі. Сярод стандартнага набору на паліцах стаяць кнігі Алеся Адамовіча, Святланы Алексіевіч, Уладзіміра Арлова. Мы знайшлі нават рарытэт — кнігу «Шляхам жыцьця» Янкі Купалы, выдадзеную ў 1913 годзе на тарашкевіцы.

У індывідуальным плане мерапрыемстваў бібліятэкі пазначаны тэматычныя выставы, ёсць нават раздзел «Прапаганда беларускай літаратуры», што ў многім абнадзейвае. Карацей, дзверы вясковай бібліятэцы адчынены для любога чытача, а ўзровень наведання — вельмі нізкі.

Бібліятэкам даводзяць шмат планаў, але самы сумны — план па спісанні старых кніг. Калі яго не выконваеш, пазбаўляюць прэміі. У макулатуру павінны ісці менавіта бібліятэчныя кнігі, іх нельга замяніць, напрыклад, газетамі. Таму, як расказвае бібліятэкарка Галіна Бяляўская, гэта ёй даецца вельмі складана: «Я хаваю кнігі, шкада ж! Я лепш дзеткам інтэрнацкім аддам, што па суседстве размяшчаюцца... Няхай здымаюць гэтую прэмію!»

Самае цікавае, што тамы Уладзіміра Леніна, якія займаюць палову паліцы, кіраўніцтва спісваць забараняе. Часам падаецца, што беларускія гарадкі і вёскі з мінулага перанялі толькі страхі, з якімі і жывуць у сучаснасці.

Безумоўна, многае залежыць ад чалавека, які займае пасаду — «не месца ўпрыгожвае чалавека, а чалавек месца». Так і ў гэтым выпадку нам падалося, што ў Галіны Міхайлаўны нейкая асаблівая любоў да беларускай літаратуры. На пытанне пра прычыны такога стаўлення да беларускага, яна нават здзівілася, бо, насамрэч, гэта нармальна — любіць сваё, роднае!

Галіна Бяляўская ў бібліятэцы пяты год: «Так склаўся лёс». Сама яна нават не мясцовая — прыехала з Хоцімскага раёна Магілёўскай вобласці, дзе працавала ў калгасе, але па класіцы жанру калгас распаўся, а людзі засталіся без працы. Большасць з іх вымушана была з'ехаць пераважна ў Дзяржынскі раён. Сям'я Бяляўскіх пераехала ў Старадарожскі, дзе зноў уладкаваліся ў адным з калгасаў. Галіна Міхайлаўна працавала на калгаснай запраўцы, пакуль зноў не адбылася рэарганізацыя ў форме далучэння да іншага калгаса. І палова людзей зноў засталася без працы, у тым ліку і Галіна Міхайлаўна з мужам.

Жылі яны ў калгасным доме, таму хутка паўстала пытанне высялення. Цяпер большасць калгасаў так складаюць дамовы, што калгаснае жыллё выкупіць практычна немагчыма. Сустракаюцца выпадкі, што людзей проста высяляюць зімой на вуліцу з непаўналетнімі дзецьмі. Дзейнае жыллёвае заканадаўства, у адрозненне ад ранейшага, таксама не дае чалавеку ніякіх гарантый, і суд выносіць адпаведныя рашэнні аб высяленні.

Але Галіна Міхайлаўна дамаглася магчымасці выкупіць займаны імі калгасны дом. Таму цяпер амаль увесь яе заробак ідзе на выплату растэрміноўкі за хату. Дарэчы, заробак бібліятэкара за поўны працоўны дзень з двума выхаднымі на тыдзень — мінімальны памер аплаты працы ў Беларусі. Тобок, 265 рублёў на месяц.

На пытанне пра тое, як Галіна Міхайлаўна стала бібліятэкарам адказвае з усмешкай: «У мяне няма спецыяльнай адукацыі. Калі засталася без працы, то чарговы раз зайшла ў бібліятэку. Былая бібліятэкарка прапанавала ісці на яе месца, бо сама яна пераводзіцца ў гарадскую бібліятэку... Я заўсёды любіла кнігі, і ў мяне даволі багата кніг. Дома ў нас заўсёды было асобае стаўленне да кнігі. Калі хадзіла "ў горад", то маленькая дачка прасіла прынесці не цукеркі і прысмакі, а менавіта кнігі...»

Галіна Міхайлаўна шчыра здзіўляецца: у гады яе маладосці кнігі ў бібліятэках давалі толькі на адну ноч, «а цяпер выдаюцца хоць на месяц, хоць на тры, але людзям ужо гэта не трэба, асабліва вяскоўцам. Нават з дзяцей больш за ўсіх у нас чытае дзяўчынка з Мінска, калі прыязджае на канікулы...».

> **Праблемы бібліятэк — не толькі і не столькі з боку дзяржаўных органаў, якія курыруюць бібліятэкі: асноўная прычына менавіта ў саміх наведвальніках (дакладней ненаведвальніках)**

Бібліятэкарка кажа, што і сама з задавальненнем больш чытала, але з-за «папяніны» часу няма. Выкараніць бюракратызм і цяганіну, якія глыбока пусцілі карані ва ўсе сферы беларускага жыцця, адразу амаль немагчыма.

Як бачым, праблемы бібліятэк — не толькі і не столькі з боку дзяржаўных органаў, якія курыруюць бібліятэкі: асноўная прычына менавіта ў саміх наведвальніках (дакладней ненаведвальніках). На жаль, беларускае грамадства не заўсёды прызнае, што ў многім яно вінаватае само. Мы апыталі мясцовых жыхароў, і высветлілася, што з пятнаццаці чалавек толькі адзін гатовы бавіць час у бібліятэцы. Адсюль неактуальнасць установы, адсюль — нізкія заробкі яе працаўнікам і малая падтрымка з дзяржбюджэту.

**Фота аўтара**

# Наклад беларускамоўных кніг дасягнуў узроўню 1993 года

Андрэй РАСІНСКІ

**Нацыянальная кніжная палата Беларусі апублікавала дадзеныя за 2017 год. Як адзначае ведамства, адсотак беларускамоўных кніг — і паводле накладу, і паводле назваў — расце.**

У 2017 годзе наклад кніг на беларускай мове склаў 4 млн 336,7 тысяч асобнікаў. Іх доля ў агульным накладзе павялічылася да 18,8%, што нават болей, чым у 1993 годзе (18,7%), калі ішла актыўная беларусізацыя.

Леташні адсотак беларускамоўных кніг не дасягнуў піка 1990-х (у 1994 годзе працэнт беларускамоўнага накладу складаў 21,1%), але ён расце. У 2016 годзе наклад беларускамоўных кніг быў усяго 16,2%, а свет пабачыла 3 млн 739,4 тысяч беларускамоўных асобнікаў, што было менш, чым у 2017 годзе.

Колькасць беларускамоўных выданняў таксама павялічвалася: з 1122 кніг у 2016-м да 1314 кніг у 2017 годзе і, адпаведна — з 11,7% да 13,7%.

Як падкрэслівае Нацыянальная кніжная палата, «у параўнанні з 2016 годам усе паказчыкі выпуску беларускамоўных выданняў выраслі: колькасць выданняў — на 17,1%, тыраж — на 15,9%, колькасць друкаваных лістоў-водзіскаў — на 16,5%».

Але ці можна сцвярджаць, што ўсё гэта сведчыць на карысць, як паявілося цяпер гаварыць, «мяккай беларусізацыі»? Ці не ёсць гэта толькі статыстычнай выпадковасцю?

Доля выданняў беларускамоўных кніг і блізка не падабралася да лічбаў 1990-х гадоў. У 1993 годзе кніг на беларускай мове выдавалася 26,9%, пасля чаго адбыўся рэзкі абвал. Іх колькасць сёння параўнальная з выданнямі на іншых замежных мовах (акрамя, вядома, рускай). У 2015 годзе на мове тытульнай нацыі ў Беларусі выдавалася ўсяго ў два разы больш кніжак, чым на англійскай.

Мала таго, агульны наклад беларускамоўных кніжак у паваенным разбураным 1946-м быў аж на 2 млн большы за сённяшні паспяховы 2017 год. Увогуле, беларускамоўных асобнікаў у 2010-я гады нярэдка выходзіла меней, чым у ваенны 1945-ы (для параўнання: у 1945-м пабачыла свет 3 млн 588 тысячы экзэмпляраў, у 2011-м — 2 млн 884 тысячы).

Пэўны рост адсоткаў беларускамоўных кніг вельмі проста тлумачыцца падзеннем рускамоўнага друку пасля крызіснага 2008 года. А колькасць беларускамоўных кніг проста застаецца на стабільна нізкім узроўні, дзе большасць накладаў складаюць школьныя падручнікі.

Увогуле, у даваенныя часы на беларускай мове выходзіла пад 90% кніг, а выданняў на ідышы было болей, чым выданняў на рускай мове. Толькі ў 1960-я гады, руская мова выйшла на першы план. Нягледзячы на кароткі пік беларускага адраджэння, з 1994 года пазіцыі рускай мовы ўзмацніліся.

Змены за апошні год на карысць беларускай мовы ўсё яшчэ могуць быць толькі статыстычнымі ваганнямі. Але адначасовы рост беларускамоўных і іншамоўных выданняў можа сведчыць, што мы назіраем нешта новае.

# «Мы спалі апранутыя, каб, калі што, адразу бегчы ў склеп...»

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**На Гомельшчыне гэта сям'я знайшла свой новы дом. Яны збеглі ад вайны ў іншую краіну і вяртацца ўжо не збіраюцца. Магчыма таму, што дасюль вераць расійскай прапагандзе, якая расказвае пра «злобных нацыяналістаў», а мо і таму, што не вераць у сканчэнне вайны і мірнае жыццё на іх радзіме.**



### Ліля не памятае як збірала торбы

Міхаіл і Ліля прыехалі ў Гомель з Дэбальцава. З таго самага Дэбальцава, абвешчанага ўнутраным раёнам ДНР, і дзе адбываліся актыўныя баявыя дзеянні. Сям'я выехала з горада 28 снежня 2014 года. А ў лютым горад быў узяты баевікамі ДНР.

Калі пачалася вайна, Чапліны ўдваіх працавалі на чыгунцы. Сын вучыўся ў тэхнікуме, а дачка — у пачатковай школе. Яны жылі ва ўласным доме, побач з якім перыядычна ўзрываліся міны.

*«Вайна праходзіла літаральна каля нашага плота, метраў трыста ад хаты,* — згадвае Міхаіл. — *Аднойчы я ледзь не загінуў. Пачуў, што нешта ляціць, і адразу лёг на зямлю. А міна выбухнула перад брамкай».*

На вуліцы, дзе жыла сям'я, засталіся жыць адны старыя: астатнія ўсе з'ехалі.

Для Лілі жыццё падчас вайны прайшло нібыта ў сне: *«Я плакала, не ведала, што рабіць... Спачатку мы спалі апранутыя, каб, калі што, адразу бегчы ў склеп. Але пасля сталі распранацца і класціся спаць нармальна. Мы вырашылі: што будзе, тое і будзе. З гэтага пекла была гатова збегчы ў любы момант. Я чакала, пакуль Міша скажа, што рабіць. Нарэшце, ён вырашыў з'язджаць».*

Ліля не памятае як збірала торбы. У выніку атрымалася, што ўзяла зусім не тое, што было неабходна: *«Але ў Беларусі настолькі добрыя людзі, што нам далі ўсё, чаго не ставала».*

Першапачаткова сям'я не планавала з'язджаць назаўсёды. *«Мы проста хацелі дзесьці перачакаць вайну,* — згадвае Ліля. — *Але пасля стала зразумела, што гэта будзе цягнуцца яшчэ доўга».*

*«Чаму менавіта Беларусь?»* — пытаюся. *«Мы чулі, што ў Беларусі больш-менш нармальнае жыццё. А ў жонкі бацька — беларус»,* — кажа Міхаіл.

Ліля і Міхаіл прыехалі ў вёску Вышамір Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Пэўную дапамогу адразу аказала дзяржава: змаглі бясплатна прайсці медкамісію.

*«Нам сказалі, што праз сем гадоў мы зможам атрымаць беларускае грамадзянства. За медычныя паслугі мы плацім зараз па прэйскуранце як асобы, якія маюць від на жыхарства»,* — распавядае Міхаіл.

Міхаіл адразу ж пайшоў на біржу працы. Там яму прапанавалі вакансію жывёлавода ў калгасе. Канечне, даглядаць жывёлу — не цягнік даглядаць... *«Галоўнае, каб была праца»,* — кажа мужчына. Ліля спачатку працавала дворнікам. Зараз яна — прыбіральшчыца ў школе.

Сын давучваецца ў Гомелі. Каледж хлопец скончыў на выдатна, і атрымаў размеркаванне на працу ў абласны цэнтр. Ён зняў аднапакаёўку, і сям'я падумала, што добра было б жыць разам. Таму яны ўсе перабраліся ў Гомель і разам сталі здымаць трохпакаёвую кватэру. Дачцэ ўжо дванаццаць. Яна навучаецца ў той жа школе, дзе Ліля працуе прыбіральшчыцай.

Сям'і дапамагалі простыя людзі. *«Прадуктамі быў завалены ўвесь дом!»* — узгадвае Міхаіл. Чаплінным прывозілі мэблю, вопратку, гаспадарчыя рэчы. А старэйшы сын сам стаў шыць цацкі для сястры. Спачатку гэта былі чалавечкі з розных мультфільмаў, а пасля — вялікія мядзведзі са штучнага футра ад дублёнкі.

Бежанцамі сям'я сябе не лічыць. *«Мы — перасяленцы. Пра статус бежанца зусім не думалі, нават калі там і ёсць нейкія ільготы. Ад дабра дабра не шукаюць».*

*«Ці плануеце вяртацца на радзіму?»* — пытаю. *«А куды?»* — з сумнай усмешкай і ў адзін голас запытваюць Міхаіл з Ліляй. — *Мы хацелі аднаго — мірнага неба, і яно тут ёсць. Больш нічога не трэба».*

### «Іду ў царкву, а снарады свішчуць над галавой...»

Ніна — маці Міхаіла, якой пашанцавала ўцячы з ДНР за некалькі дзён да «катла». Яна з мужам цяпер жыве ў той хаце ў Вышаміры, дзе спачатку жыў сын з сям'ёй.

Сама Ніна з Навагрыгор'еўкі — вёскі, што знаходзіцца недалёка ад Дэбальцава. Уцякалі яны з мужам апошнія з вуліцы.

# Чатыры гады пасля Майдана

Сяргей ПУЛЬША

**З таго пераломнага дня, 18 лютага 2014 года, калі на Майдане ў Кіеве з'явіліся першыя ахвяры, прайшло чатыры гады. Ці дастаткова, каб асэнсаваць тыя падзеі? Што за гэты час змянілася ва Украіне, і галоўнае — ці варта было ахвяраваць дзеля гэтага жыццём і здароўем? Пра гэта «НЧ» гутарыць з галоўным рэдактарам часопіса «Український тиждень» Дмітром Крапівенкам.**

***— Пасля Майдана, як змянілася Украіна?***

— Змянілася ўсё ці, збольшага, многае. Ёсць відавочныя рэчы: змянілася ўлада, змяніўся геапалітычны курс краіны, мы жывём зараз у іншым дыскурсе — у сувязі з вайной. Ад глабальных зменаў мы прыйшлі і да больш лакальных: «бязвіз» з Еўропай, рэформа адукацыі, медыцыны, паліцыі і шмат іншых рэформаў, пра якія зараз кажуць нашыя палітыкі. Гэтыя рэформы ў рознай ступені рэалізацыі, але так ці інакш — змены пачаліся. За чатыры гады яны закранулі практычна ўсе сферы жыцця.

Я прыхільнік таго, што ўсе гэтыя змены павінны былі адбыцца, у мяне няма ніякіх сантыментаў, што гэта было не трэба альбо «таго не варта». Пытанне толькі ў кошце гэтых пераўтварэнняў. З кепскага — нам не ўдалося пазбегнуць вайны і крыві. Але гэта вайна не ўнутраная, не грамадзянская. Яна выкліканая інтэрвенцыяй Расіі.

З добрага я скажу толькі пра адну рэч, самую важную, на мой погляд. Ніводная краіна былога сацыялістычнага лагера альбо пост-СССР, якая выйшла з пад апякунства Расіі, у гістарычнай перспектыве пра гэта не пашкадавала. І краіны Усходняй Еўропы, і краіны Балтыі прайшлі шлях рознай ступені паспяховасці. Аднак, я ўпэўнены, што ў масе сваёй грамадзяне гэтых краін не шкадуюць, што выйшлі са сферы ўплыву Расіі. А гэта прадвызначае і ўсе астатнія рэчы: і геапалітычныя, і эканамічныя, і сацыяльныя, і гэтак далей.


Фота www.meduza.io

Калі вайна — галоўны мінус, то галоўны плюс — новы геапалітычны, праеўрапейскі, празаходні курс Украіны. Гэта шлях на бліжэйшыя гады, і я не бачу падстаў, каб казаць, што краіна ў нейкай агляднай будучыні з гэтага курсу збочыць. Шлях будзе складаным — ён і зараз няпросты, — але ў цэлым ён слушны і прывядзе да поспеху.

***— У грамадстве няма шкадаванняў наконт гэтага выбару?***

— Заўсёды складана казаць за цэлую краіну *(смяецца)*. Так, у нас ёсць пэўны працэнт грамадзянаў, сярод якіх моцныя імперскія сантыменты. Гэтае пытанне хутчэй псіхалагічнае і ментальнае, чым рацыянальнае. Але, як бы цынічна гэта не гучала б, з-за вайны колькасць такіх людзей імкліва скарачаецца. Гэта людзі, у асноўным сталага веку, якія на ўзроўні эмацыйным, сентыментальна прывязаныя да мінулага, і ім што ні кажы, што ні зрабі — «Раней было лепш». Пэўна таму, што яны былі маладзейшыя.

Канешне, казаць, што ў нас у краіне ніхто не шкадуе пра мінулае, будзе няправільна. Але гэтыя людзі не ў мэйнстрыме, і яны ёсць і ў іншых названых мною краінах, — «неграмадзяне» ў Латвіі і Эстоніі, людзі, якія галасуюць за Камуністычную партыю Чэхіі... У гэтым плане мы не вельмі моцна адрозніваемся ад тых еўрапейскіх краін. Іншая справа, што мы вырваліся з-пад апякунства Расіі, але прайсці вялікі шлях нам яшчэ належыць. Сённяшняя сітуацыя шмат каго яшчэ не натхняе, бо не відавочныя перавагі — яны, збольшага, у будучыні. Таму ў нас такі... стрыманы аптымізм.

*«Кожную нядзелю я хадзіла пешшу ў царкву за пяць кіламетраў. Аднойчы іду, а гэтыя снарады свішчуць прама нада мной. Не ведаю, хто каго бамбіў. А суседзі з сяла падчас адной бамбёжкі сядзелі ў склепе і выйшлі на дзве хвіліны папаліць. У выніку, жонку пасекла мінай, а муж яе як сядзеў, так і застаўся сядзець»,* — узгадвае Ніна.

Выбрацца з вёскі Ніне дапамог выпадак. Аднойчы яна выйшла з хаты і пабачыла, што хлопец на машыне гандлюе хлебам. Ён аказаўся з Арцёмаўска (Бахмут з 2016 года — *аўт.*). Ніна падышла і запытала, ці змог бы ён іх як-небудзь вывезці. Хлопец сказаў, што на заўтра будзе



ехаць да Арцёмаўска і зможа падвезці яе з мужам.

Ніна стала збіраць сумкі. Хацела даехаць да Палтавы, дзе жыла дачка. Назбірала поўную торбу харчу: мяса забітых качак і трусікаў. *«У Палтаву прыехаў яшчэ і сын з нявесткай. Працы тады было не знайсці, таму трэба было хоць нечым дзецям дапамагчы»,* — тлумачыць Ніна.

Старэнькая, худзенькая… Я не ўяўляла, як яна вытрымала гэты шлях. А шлях аказаўся зусім няпросты: з Дэбальцава да Арцёмаўска, з Арцёмаўска да Славінска, са Славінска да Палтавы…

У дачкі ў Палтаве Ніна з мужам пражыла тры месяцы, дзе аформіла сабе пенсію.

*«Пасля сын Міша уладкаваўся ў Беларусі і напісаў, каб мы прыязджалі да яго. Мы з мужам і прыехалі. Праўда, атрымлівалася так, што пастаянна каталіся на Украіну, бо там трэба было атрымліваць пенсію. І так ездзілі да красавіка мінулага года»,* — распавядае Ніна.

Пасля Ніна прыйшла ў міграцыйную службу і падала заяву на атрыманне пенсіі ў Беларусі. У выніку стала тут грошы атрымліваць. Таксама ёй з мужам далі від на жыхарства да 2057 года.

Неўзабаве ў Вышамір перабралася і дачка Ірына з сям'ёй. На Украіне засталіся яшчэ адна дачка і сын.

*«А дом наш — ён стаіць пусты. Прыйшлі ДНРаўцы, пажылі там некаторы час і сышлі. Нехта выцягнуў адтуль і мэблю, і рэчы, і нават кацёл. Таму ехаць нам ужо няма куды. У мяне часта пытаюць, ці не шкада вам дома? Які дом, супакойцеся!* — упэўнена кажа Ніна. — *У мяне дзеці ўсе жывыя. І жывём разам. А гэтым пахваліцца можа далёка не кожны з нашага сяла».*

### Не магла прывыкнуць, што самалёт — гэта не ракета

Ірына, дачка Ніны, апошняя з сям'і Чапліных прыехала на Гомельшчыну. Яна жыла на ўскрайку Дэбальцава. За тыдзень да абстрэлу яе муж застаўся без



**Прыйшлі ДНРаўцы, пажылі там некаторы час і сышлі. Нехта выцягнуў адтуль і мэблю, і рэчы, і нават кацёл. Ехаць нам ужо няма куды. У мяне часта пытаюць, ці не шкада вам дома? Які дом, супакойцеся! У мяне дзеці ўсе жывыя. І жывём разам. А гэтым пахваліцца можа далёка не кожны з нашага сяла**

працы: зачынілася прадпрыемства. Знаёмыя прапанавалі яму на будоўлю ў Маскву. Так Ірына засталася з дзіцём адна.

Жанчына працавала ў дзіцячым садку. Калі пачалася страляніна, дзяцей у садок вадзіць перасталі, а працаўнікам плацілі дзве трацiны заробку. Выхавацелі хадзілі на працу па панядзелках і пятніцах — гэта была своеасаблівая праверка на тое, ці ўсе жывыя.

Калі Ірына згадвала сваё жыццё там, то ў яе пачынаў дрыжаць голас. Збегаць хутка у краму, завезці сына за хатнім заданнем ў панядзелак у школу, адзначыцца самой — і хутчэй у склеп, бо зноўку пачаўся абстрэл.

*«Сядзім мы неяк на двары, закручваем памідоры,* — распавядае Ірына. — *Раптам пачулі страляніну. Адразу спусціліся ў склеп. Толькі спусціліся, як сталі разрывацца міны. Не ведаю, колькі мы там прасядзелі. Калі выходзілі, было ўжо цёмна. У выніку, наш плот пасекла, выбіла шыбы, прадзiравіла дах».*

Пасля новага года пайшлі чуткі, што заробкі жыхарам выплачваць ніхто не будзе. *«Мы ж бюджэтнікі,* — сумна сказала Ірына. — *А хто будзе пралічваць бюджэт?».* І Ірына вырашыла ехаць з сынам да мужа Леаніда ў Маскву. 21 лістапада 2015 года яны з'ехалі з Дэбальцава.

У Маскве Ірына з мужам знялі невялічкі дом каля Унукава. Таму чутны былі самалёты. Днём Ірына гэта разумела, а ноччу перыядычна ўскоквала, бо падавалася, што гэта не самалёты ляцяць, а ракеты.

Леанід рабіў рамонты ў кватэрах. Ірына ўладкавалася працаваць нянечкай.

Да таго часу брат Міхаіл ужо уладкаваўся на Гомельшчыне, туды ж пераехала і іх мама. Таму Ірына з мужам вырашылі, што ім трэба быць усім разам. Пачакалі, пакуль у сына скончыцца навучальны год, і 31 мая 2015 года прыехалі ў Беларусь…

Ірына шчыра прызнаецца, што не ведае, як бы яны выжылі тут, калі б не дапамога людзей. Мэблю ім прывозілі людзі і з Рэчыцы, і з Гомеля.

*«Мы вясковыя людзі, таму да працы нам не прывыкаць. Адразу ўзялі качачак, курак, трусікаў, козачак…»* А цяпер у хлявах Ірыны стаіць і парася, і карова Марта.

Школа ў Вышаміры беларускамоўная. Таму сыну давялося асвойваць беларускую мову. Спачатку яму дазволілі адказваць па-руску, але зараз хлопец у школе ўжо перайшоў на беларускую мову. Настаўніца нават не так даўно сказала, што ён размаўляе па-беларуску лепш, чым астатнія пяць дзяўчынак у класе.

Леанід працуе ў калгасе. Ірына — настаўніца музыкі ў дзіцячым садку і школе. А яшчэ ходзіць у клуб, дзе спявае беларускія песні.

Зараз вялікая сям'я з Дэбальцава намагаецца пабудаваць новае жыццё. І не любіць разважаць пра тое, хто вінаваты ў тым, што на іх радзіме разрываюцца снарады, а яны вымушаны жыць у Беларусі. Кажуць, у кожнага сваё меркаванне. А тым часам недзе там на Данбасе стаіць у чаканні іх дом з выбітымі шыбамі і дзіравым дахам…

**Фота Марыны Драбышэўскай**

---

***— Шмат хто кажа, што вынік Майдана — вайна. З іншага боку, была інфармацыя, што медалі «За вызваленне Крыма» былі адлітыя, калі Майдана яшчэ і ў праекце не было. У прынцыпе, вайны можна было пазбегнуць?***

— Я думаю, што можна было пазбегнуць калі не вайны, дык такой колькасці ахвяраў. Што тычыцца Крыма, то там непасрэдныя ахвяры — адзін украінскі вайсковец і адзін крымскі татарын. Яны загінулі ў ходзе дзеянняў па анексіі паўвострава. Ці маглі мы пазбегнуць анексіі Крыма? Зараз я думаю, што не. Мы неяк падлічылі нашы магчымасці на той момант — на люты-сакавік 2014 года. І прыйшлі да высновы, што з ваеннага пункту гледжання анексіі Крыма мы супрацьстаяць не маглі — крыві было б толькі больш.

Што тычыцца Данбаса… Калі б тады, у сакавіку 2014 года, удалося правесці эфектыўную паліцэйскую аперацыю і закрыць мяжу з Расіяй — вайны ў поўным разуменні гэтага слова ўдалося б пазбегнуць. Тут былі шанцы.

Зараз відавочна, што абапірацца на мясцовы апарат МУС, СБУ, Нацгвардыі было немагчыма — там, як і ў Крыме была вялікая колькасць людзей, што здрадзілі прысязе ці бяздзейнічалі. Але ёсць прыклад Харкава, калі сіламі МУС сепаратысты былі проста выкінутыя з гарсавета і аблсавета. Узялі будынкі пад ахову, і сепаратысцкі мяцеж у Харкаве быў знішчаны.




Фота AP

Трэба было больш рашуча дзейнічаць у Данецкай, Луганскай абласцях і больш рашуча перакрываць мяжу, бо сепаратысцкія «хуліганы», «цітушкі», як мы іх называем, ехалі да нас электрычкамі з Белгарада, Растова і гэтак далей.

Мяцеж можна было лакалізаваць. Досвед Харкава, Запарожжа, Нікалаева, Херсона, Дняпра паказаў, што гэта было магчыма. Але МУС і войска былі дэмаралізаваныя. І мала было людзей, гатовых узяць на сябе адказнасць за гвалт, рашэнне, дзеянне. Але ахвяр у выпадку рашучых дзеянняў у параўнанні з тым, што пачалося ў красавіку-маі, было б непараўнальна менш. Гэтая мяккацеласць тады адыграла дастаткова жудасную ролю. У адзін момант не захацелі дзейнічаць жорстка… А гэта было б апраўдана ў параўнанні з тым, што здарылася праз месяц-другі.

***— Ва Украіне зараз часцяком можна пачуць галасы, што існуючая ўлада «здрадзіла ідэалам Майдана». Ці сапраўды ёсць, як у вас кажуць, «зрада»?***

— Давайце спачатку ўзгадаем, якія былі патрабаванні Майдана. Зрынуць Януковіча? Зрынулі. Перазапусціць уладу? Перазапусцілі. Выбары прайшлі дэмакратычна, прызнаныя ўсім светам, каго людзі абралі — таго абралі. Парашэнка можа шмат каму не падабацца, але ён — законна абраны прэзідэнт, які ўладу не ўзурпаваў. Януковіч таксама быў абраны законна, але пасля ён пачаў узурпацыю ўлады — падмінаў пад сябе тыя паўнамоцтвы, якія яму Канстытуцыяй не надаваліся.

Асацыяцыя з ЕС — адпраўная кропка Еўрамайдана — падпісаная. І мы нават прасоўваемся па шляху еўрапейскай інтэграцыі.

Таму казаць пра тое, што ўлада не выканала патрабаванні Майдана, нельга. Канешне, зрынанне Януковіча — гэта заслуга самога Майдана. Але асацыяцыя з ЕС — гэта ўжо заслуга ўлады, абранай пасля яго.

Я лічу, што належным чынам незадаволены самы вялікі запыт грамадства — запыт на справядлівасць. Калі мы вернемся да Майдана, то пакаранне людзей, якія нясуць адказнасць за расстрэлы ў Кіеве, — адна з самых топавых тэмаў. Судовыя працэсы ідуць рознай ступені інтэнсіўнасці, але ў цэлым грамадства лічыць, што ўлада робіць недастаткова, каб належным чынам гэтыя справы расследаваць.

Наш мем — антыкарупцыя. Майдан у вялікай ступені быў супраць карупцыі. Казаць, што за чатыры гады мы пераадолелі карупцыю, было б ужо зусім няправільна. Яна стала не такой відавочнай, не такой нахабнай, яна займела іншыя формы, але карупцыйныя факты маюць месца.

Таму, з аднаго боку, уладу не любяць традыцыйна, а з іншага — па меркаванні многіх людзей, яна робіць недастаткова. Робіць тое, але недастаткова. А ўжо чаму — у кожнага знаходзяцца свае тлумачэнні.

І, канешне, да гэтага дадаюцца матэрыяльныя і сацыяльна-эканамічныя пункты, хаця Майдан не быў сацыяльным пратэстам: ніхто не выходзіў туды дзеля таго, каб у два разы вырас заробак, ствараліся новыя працоўныя месцы… Еўраінтэграцыя прадугледжвае гэта, але ў больш аддаленай перспектыве. Зразумела, калі растуць тарыфы, калі абясцэньваецца нацыянальная валюта, усё гэта ўладзе з рук не сыходзіць і рэйтынгаў ёй не дадае…

***— А можа, чаканні ад Майдана былі завышаныя?***

— Афіцыйныя патрабаванні Майдана можна звесці да двух: далоў Януковіча і даеш еўрапейскі выбар. Гэтыя базавыя патрабаванні выкананы. А што тычыцца справядлівасці, гэта такая штука, якую не памацаеш, кожны разумее яе па-свойму. У аднаго справядлівасць — каб суды абараняллі правы ўласнасці і правы чалавека, а ў іншага — каб у мяне ў каморы было проса не менш, чым у суседа. Ёсць і такія людзі, і яны, пэўна, больш расчараваныя ўладай, чым тыя, у каго не было такіх чаканняў ад Майдана.

***— І ўсё ж: ці варты быў Майдан ахвяр, «нябеснай сотні»?***

— Для мяне адказ адназначны: гэта было варта і было не дарма. Таму што, хай і гучыць пафасна, гэта — цана свабоды. Калі кажаш пра такія рэчы, шкадаваць мне, напрыклад, не даводзіцца. Пра тое, што мы пачалі Майдан, мы ў ім удзельнічалі, мы яго падтрымлівалі — я ані на секунду за гэты час не сумняваюся. Калі вярнуцца на машыне часу на чатыры гады таму, я рабіў бы ўсё тое ж самае — без шкадаванняў.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УЗБЕКІСТАН. Як здымаць кліпы

«Узбекканцэрт» — ведамства пры мінкультуры Узбекістана, — апублікавала на сваім сайце памятку-інструкцыю, як музыкі павінны здымаць кліпы. Згодна з дакументам, у кліпах не павінна быць нічога, што супярэчыць нацыянальнаму менталітэту. На справе гэта азначае не толькі забарону прапаганды тэрарызму, наркаманіі і алкагалізму, відавочную або схаваную рэкламу. Таксама забаронена непрыстойным чынам дэманстраваць герб, сцяг і фотаздымкі кіраўніка Узбекістана, выяўляць непавагу да святых месцаў і нават да краявідаў краіны. Мужчынам, паводле інструкцыі, нельга з'яўляцца ў жаночай вопратцы, жанчынам — у адкрытых строях. Арыгінальны пункт — забарона дэманстраваць без прывязкі да тэксту і сэнсу песні дарагія дамы, машыны, упрыгожанні, выхваляцца раскошай і гэтак далей. Аднак самы незвычайны пункт — блок, які забараняе музыкам спяваць лежачы. Зрэшты, нават зняўшы кліп музыкі павінны прайсці цэнзурныя камісію, якая працуе пры «Узбекканцэрце». Толькі са згоды гэтага органа можна змяшчаць кліп у інтэрнэт і дэманстраваць на ТБ. Каб давесці сур'ёзнасць намераў, чыноўнікі адразу забаранілі 12 кліпаў.

**Па матэрыялах узбекскай прэсы**

### НІДЭРЛАНДЫ. Сярэдні палец каралю

У парламенце Каралеўства Нідэрландаў пачаліся дэбаты наконт выключэння з Крымінальнага кодэкса параграфаў 111 і 113, якія тычацца гонару Яго Вялікасці. Аказваецца, да гэтага часу ў ліберальных Нідэрландах абраза каралеўскай асобы цягне за сабой штраф да 25 тысяч еўра ці пяць гадоў турмы. І гэта не проста рэлікт. Справы па гэтым артыкуле ўзбуджаюць час ад часу. І вось, нарэшце, леваліберальная партыя «Дэмакраты 66» запатрабавала лібералізацыі ў гэтай сферы. «Кожны хутка зможа паказаць каралю сярэдні палец», — пафасна паабяцаў грамадзянам адзін з ініцыятараў адмены згаданых артыкулаў. Цікава, што дэбаты наконт папраўак у КК пачаліся пасля гучнай справы ў суседняй Германіі, дзе ў 2016-м аднаго з дыджэяў хацелі пакараць за абразу турэцкага прэм'ера Эрдагана. У выніку справу неяк замялі. Гісторыя выклікала вялікі рэзананс у Нідэрландах. Галандцы, якія традыцыйна лічаць сябе самай ліберальнай нацыяй у Еўропе, адчулі комплекс перад немцамі і задумаліся пра рэформу.

**Па матэрыялах нямецкай прэсы**

### ТАТАРСТАН. Самагон не пройдзе!



У Казані збіраюцца адкрыць Музей самагонаварэння, што, на думку муніцыпалітэта, павялічыць турыстычную прывабнасць татарскай сталіцы. Аднак частка мясцовых мусульман у выглядзе Цэнтра ісламскай культуры, абураныя. Прававерныя заявілі, што музей перашкаджае «антыалкагольным традыцыям», якія склаліся ў горадзе. «Першапачатковая функцыя любога музея — асветніцкая, аднак у выпадку з музеем, дзе плануецца арганізаваць дэгустацыю алкаголю, куды будуць пускаць дзяцей, яна будзе парушаная. Калі так справа пойдзе, то ў гэты музей могуць пачаць вадзіць школьнікаў на экскурсіі», — адзначаецца ў заяве мусульман. У паведамленні таксама гаворыцца, што ўся татарская грамадскасць абураная. Праўда, акрамя клерыкалаў супраць музея да гэтага часу ніхто не абурыўся. Магчыма, справа ў тым, што ў Татарстане працуе адзін з лідараў алкагольнай вытворчасці «Татспиртпром». Аднак яго працу ў Цэнтры ісламскай культуры чамусьці ігнаруюць.

**Па матэрыялах расійскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Ці пабягуць еўрапейцы ў Афрыку?

Вялікі ажыятаж у Германіі выклікаў серыял «Прарыў у невядомасць» («Aufbruch ins Ungewisse»), паказ якога стартаваў 14 лютага на нямецкім канале ARD. Усё праз незвычайны сюжэт. На экране выяўленая будучая Еўропа, дзе практычна ва ўсіх краінах да ўлады прыходзяць правыя папулісты, якія адкрываюць паляванне на лібералаў. Сярод ахвяр палітычнай зачысткі — нямецкая журналістка. Ёй і сябрам яе сям'і не застаецца нічога іншага, як бегчы ў Паўднёвую Афрыку, дзе сітуацыя, па чутках, больш-менш нармальная. Уцекачы трапляюць у Намібію, дзе іх садзяць у лагер. Адсюль два шляхі — або дэпартацыя ў Еўропу і смерць, або ўцёкі з дапамогай кантрабандыстаў у Паўднёвую Афрыку. Сінопсіс серыяла выклікаў незадавальненне ў нямецкім грамадстве. Многія пабачылі ў ім спробу звярнуць увагу на трагедыі афрыканскіх імігрантаў або агітацыю супраць правых папулістаў. Самі ж правыя папулісты лічаць, што аўтары хлусяць наконт будучыні Еўропы. На іх думку хаос у Еўропе непазбежны, але яго крыніцай будзе супрацьстаянне еўрапейцаў і імігрантаў, у тым ліку з Афрыкі. Таму куды-куды, а ў Афрыку еўрапейцы дакладна бегчы не будуць.

**Па матэрыялах нямецкай прэсы**




Фота www.iarex.ru

# Як падзяліць Каўказ

*Алег НОВІКАЎ*

**Заява Ільхама Аліева пра неабходнасць «вяртання» азербайджанцам Ерэвана прымусіла палітолагаў і гісторыкаў узгадаць пра тэрытарыяльныя спрэчкі, якія дасюль існуюць у Закаўказзі.**

Хаця аліеўская фраза пра тое, што «Ерэван наш», стала медыйнай бомбай, нічога новага азербайджанскі гарант не сказаў. Па сутнасці, ім была толькі агучана папулярная на беразе Каспія тэорыя, паводле якой сярэднявечнае Эрыванскае ханства (тэрыторыя цяперашняй Арменіі) ёсць зямлёй азербайджанскага народа. Маўляў, армяне з'явіліся тут за кошт расійцаў. Расія сістэмна перасяліла сюды армянаў, пакольку тыя, будучы хрысціянамі, больш лаяльна ставіліся да каланіяльнай адміністрацыі.

Як высвятляецца, падобных гістарычных версій і, адпаведна, створаных на іх базе міфаў хапае не толькі ў Баку. У Ерэване таксама дасюль не забыліся, што сучасная Арменія — гэта толькі кавалак гістарычнай Арменіі, якая цягнулася аж да Міжземнага мора. Асабліва армянам балюча за тое, што на тэрыторыі Турцыі засталася святая для нацыі гара Арарат.

Не дзіўна, што тэма «рэканкісты» застаецца часткай мясцовай палітычнай дыскусіі. Дапінгам тут з'яўляюцца як мінімум два эпізоды гісторыі, калі той жа Арарат ледзь не стаў армянскім. Спачатку па выніках Першай сусветнай Армянскай рэспубліцы планавалася перадаць амаль усю ўсходнюю Турцыю, уключаючы Батумі і Трапезунд. Аднак гэты план сарвала рэвалюцыя Ататюрка.

Наступны прэцэдэнт меў месца пасля Другой сусветнай, калі Масква раптам узгадала, што ў 1920-х гадах Турцыі перадалі закаўказскія тэрыторыі, якія належалі Расійскай імперыі з другой паловы XIX стагоддзя. Кіраўнікі Грузінскай і Армянскай ССР горача падтрымалі праект перагляду савецка-турэцкіх пагадненняў. Каталікос Георг VI звярнуўся да Захаду з патрабаваннем далучыць да Савецкай Арменіі некаторыя рэгіёны Турцыі. Напрыканцы 1946-га СССР сцягнуў да турэцкай мяжы шэраг дывізій, усталяваў кантакты з курдскімі партызанамі і армянскім падполлем ў Турцыі. Аднак гэты ціск меў адваротны эфект. Захад кансалідаваўся супраць Масквы, і Сталін адступіў.

А армяне не адступілі. У 2011-м прэзідэнту Арменіі Саргсяну на сустрэчы з удзельнікамі алімпіяды па армянскай мове задалі пытанне, якія межы будзе мець будучая Арменія? Ці будзе вернутая Заходняя Арменія і гара Арарат? Серж Саргсян на гэта сказаў: «Гэта ўсё залежыць ад твайго пакалення. Маё пакаленне, думаю, выканала ўскладзены на яго абавязак, калі на пачатку 1990-х гадоў было неабходна абараніць ад ворага частку нашай радзімы — Арцах (Нагорны Карабах), і мы змаглі зрабіць гэта».

Акрамя Турцыі Арменія ў свой час сварылася з Грузіяй з-за рэгіёну Джавахецiя (Паўднёвая Грузія) — аж да вайны ў 1918 годзе. З іншага боку, у грузінаў ёсць свая версія Вялікай Грузіі, якая таксама не пасуе актуальнай палітычнай мапе. Напрыклад, у часы Саакашвілі ўздымалася пытанне пра «вяртанне» часткі Карачаева-Чаркескай Рэспублікі, якая ўваходзіла ў склад Грузінскай ССР з 1944 да 1956 гады.

Самае цікавае, што ў спіс грузінскіх патрабаванняў уваходзяць цяперашні расійскі раён вакол Сочы. Грузіны лічаць Сочы сваімі паводле дамовы бальшавіцкага ўрада і меншавіцкіх уладаў Грузіі ад 1918 года. Тэма грузінскага Сочы падаецца забаўнай, паколькі для яе рэалізацыі Тбілісі спачатку трэба як мінімум вярнуць Абхазію. Тым больш, што абхазам таксама ўласцівыя забабоны адносна зямель Грузіі. Патрабуюць ад Тбілісі нейкую цясніну і паўднёвыя асецiны.

Застаецца дадаць, што ў тым жа Баку час ад часу згадваюць пра сярэднявечны Тыфліскі (Тбіліскі) эмірат, намякаючы на яго прыналежнасць Азербайджану. Незадаволеныя ў Баку і зменай цюркскіх тапаграфічных назваў ва ўсходніх грузінскіх частках. У пачатку студзеня прэса пісала, што мясцовыя этнічныя азербайджанцы патрабуюць аўтаноміі.

Заклікі да перагляду існуючых межаў падаюцца, на першы погляд, цацкай у руках гісторыкаў і радыкальных палітыкаў. У тым ліку таму, што ў часы глабалізацыі сапраўдны кантроль належыць эканамічным гульцам або буйным геапалітычным цэнтрам.

У лепшым выпадку ваяўнічыя экспансіянісцкія заявы — гэта інструмент для ўнутранага палітычнага рынку. Напрыклад, у заяве Аліева пра азербайджанскі Ерэван лакальная апазіцыя бачыць хітры ход. Маўляў, за кошт падобнай рыторыкі Аліеў збіраецца мабілізаваць нацыяналістаў-апазіцыянераў прыйсці на выбары кіраўніка дзяржавы, што адбудуцца ў красавіку.

Аднак з улікам рэгіянальнай турбулентнасці (войны ў Сірыі, Іраку) і відавочна непазбежнага перафарматавання Блізкага Усходу, напэўна, некаторыя старыя канцэпты сапраўды могуць быць запатрабаванымі.

Дарэчы, існуе яшчэ адзін арыгінальны погляд на тэрытарыяльны расклад не толькі на Каўказе, аднак увогуле на ўсёй прасторы экс-СССР. У 2013-м ва ўзбекскай прэсе з'явіўся тэкст, аўтар якога сцвярджае, што Узбекістан «мае права быць правапераемнікам СССР», паколькі Саюз паходзіў ад Залатой Арды, якая, у сваю чаргу, ёсць першай узбекскай дзяржавай. У тэксце ёсць пералік сучасных дзяржаў, якія павінны стаць адміністратыўнымі адзінкамі Узбекістана. Туды ўваходзяць усе краіны СНД акрамя Беларусі, якая, як вядома, не была васалам татара-манголаў.

# Сабакі і Алімпіяда

Алег НОВІКАЎ

**На зімовай Алімпіядзе — буйны скандал, гэтым разам не допінгавы. Насуперак патрабаванням уладаў мясцовыя рэстараны працягваюць уключаць у меню стравы з сабак.**

Дасюль папулярная думка, што суп з сабак дапамагае патэнцыі. Аднак класічнай стравай у Карэі ўсё ж лічыцца не суп, а смажанае мяса сабакі, якое падаюць з рысам і гароднінай.

Сабачая гастраномія ў Карэі — сапраўды вельмі моцны сектар гаспадаркі. Па статыстыцы, кожны трэці паўднёвы карэец ужывае ў ежу сабакаў. Усяго для мясцовых гурманаў штогод забіваюць 2,5 мільёна жывёл.

У вачах іншаземцаў такая кулінарыя, натуральна, выглядае як вар'яцтва. Таму не дзіўна, што арганізатары Гульняў вырашылі не дражніць інтурыстаў і загадзя даслалі ў рэстараны інструкцыі — выключыць сабачае мяса з меню. Аднак не паспела пачацца Алімпіяда як высветлілася: большасць рэстаранаў і кавярняў цыркуляр праігнаравалі. Іх уладальнікі кажуць, што змена меню можа кепска паўплываць на імідж установы. Выклікае крытыку і пасіўнасць уладаў, якія не могуць прымусіць бізнесменаў выконваць пастанову. З настальгіяй згадваюць пекінскія летнія Алімпійскія гульні 2008-га, дзе з прадаўцамі сабачых сасісак (любімая страва карэйскай грамады ў Кітаі) не цырымоніліся.

Скандал перайшоў у новую фазу праз публікацыю ў брытанскім таблоідзе «Daily Mail». Журналісты высветлілі, што ўлады Карэі, каб атрымаць права на Гульні, абяцалі Міжнароднаму Алімпійскаму камітэту не толькі часова забараніць сабачую гастраномію, але і спыніць дзейнасць рынка Moran, што знаходзіцца прыкладна ў 100 кіламетрах ад карэйскай сталіцы. Moran — найбуйнейшы ў краіне сабачы рынак, дзе штогод прадаюцца каля 80 тысяч жывёл.

Фотарэпартаж, зроблены журналістамі, узрушвае. Дастаткова паглядзець на выявы вясёлых шчанюкоў, якія сядзяць у клетках з надпісам «6,5 тысяч вонаў за 1 кг». У сярэднім сабаку тут можна набыць за 6-8 долараў ЗША. Некаторых шчанюкоў пасля продажу забіваюць проста на рынку. Калі верыць журналістам, зямля на рынку залітая крывёй жывёл, а ў паветры стаіць задушлівы пах, паколькі забітага сабаку смаляць паяльнай лямпай.

Сказаць, што заходняя публіка шакаваная падобнымі рэпартажамі — нічога не сказаць. На інтэрнэт-форумах, можна сутыкнуцца з вельмі катэгарычнымі рэплікамі накшталт: «Трэба заклікаць нашых атлетаў адмовіцца ад удзелу ў гэтых спартовых мерапрыемствах, арганізатары якіх дазваляюць такія брутальныя забойствы».

У спрэчках даходзяць да правакацыйнай думкі — заходнія санкцыі, якія дзейнічаюць супраць Паўночнай Карэі, трэба скасаваць, наклаўшы іх на Паўднёвую Карэю ў якасці пакарання за негуманнае стаўленне да жывёл. Сапраўды, у Паўночнай Карэі праз беднасць маштабы вытворчасці сабачага мяса куды меншыя.

Што тычыцца экалагічных арганізацый, то яны на фоне скандалу выглядаюць трошкі разгубленымі. Напрыклад вельмі аўтарытэтная група «Людзі за этычнае стаўленне да жывёл» (PETA) на сваім сайце апраўдваецца, што даўно і сістэмна працуе супраць сабачай гастраноміі ў Паўднёвай Карэі і нават шмат чаго дамаглася. Маўляў, кампанію PETA падтрымаў прэзідэнт Паўднёвай Карэі Мун Чжэ Ін. Ён публічна выкупіў з сабачай фермы шчанюка і пакінуў яго жыць у сябе. Прэзідэнт таксама заклікаў усіх карэйцаў паўтарыць яго ўчынак.

**У спрэчках даходзяць да правакацыйнай думкі — заходнія санкцыі, якія дзейнічаюць супраць Паўночнай Карэі, трэба скасаваць, наклаўшы іх на Паўднёвую Карэю ў якасці пакарання за негуманнае стаўленне да жывёл. У Паўночнай Карэі праз беднасць вытворчасць сабачага мяса куды меншая**

Іншая экалагічная група збірае подпісы спартоўцаў пад лістом пратэсту супраць продажу сабачага мяса. Ёсць і арыгінальныя праекты: папулярызацыя сярод карэйцаў веганскай ежы. Актывісты руху кажуць, за кошт карэйцаў, якія адмаўляюцца ад мяса, яны штогод выратоўваюць каля ста сабак.

Цяжка сказаць, ці задаволяць абураных аматараў жывёл такога кшталту адпіскі эколагаў. На думку экспертаў, цяперашні скандал будзе спрыяць паступоваму перагляду кулінарных густаў карэйцаў. Карэйскія культуролагі ўжо фіксуюць трэнд, калі ўсё больш карэйцаў, перш за ўсё моладзь, бачаць у сабаках не ежу, а хатніх улюбёнцаў.



Фота www.vladtime.ru

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Калінда Грабар-Кітаравіч

Прэзідэнт Харватыі 12 лютага прыняла з афіцыйным візітам свайго сербскага калегу Аляксандра Вучыча, што, натуральна, стала сенсацыяй.

Краіны доўгі час ваявалі, і дасюль адносіны паміж імі не роўныя. Нездарма антуражам сустрэчы прэзідэнтаў сталі пратэсты харвацкіх нацыяналістаў. Візіт Вучыча меў яшчэ адзін важны сімвалічны аспект. 6 лютага Еўракамісія прадставіла новую Стратэгію пашырэння ЕС. Асноўнае пасланне дакумента — перспектыва сяброўства ў Еўрасаюзе да 2025 года для краін Заходніх Балкан (Сербія, Чарнагорыя, Албанія, Македонія, Косава, Боснія). Сяброўства харвацкіх і сербскіх палітыкаў дае падставу спадзявацца на рэалізацыю Стратэгіі.

Адразу ж на шляху той Стратэгіі з'явіліся перашкоды. Хайнц-Крысціян Штрахе, віцэ-канцлер Аўстрыі і лідар Партыі Свабоды заявіў, што Косава з'яўляецца часткай Сербіі. Дэмарш аўстрыйскіх правых — гэта толькі пачатак супраціву Стратэгіі. Адваротна свае слова скажа Расія, якая мае агентаў на Балканах. Нарэшце, незразумела, што рабіць з Іспаніяй. Мадрыд выступае супраць дыпламатычнага прызнання Косава, каб не даць прыклад каталонскім сепаратыстам.

### Георгій Квірыкашвілі

Прэм'ер-міністр Грузіі заявіў, што краіна падасць заяўку на правядзенне зімовых Алімпійскіх гульняў 2030 года.

«У нас амбіцыйны план, рэалізацыя якога дапаможа хуткаму развіццю краіны ў сціслыя тэрміны», — заявіў Квірыкашвілі. Увогуле, Грузія робіць ужо другую спробу атрымаць права правесці зімовую Алімпіяду. Упершыню падобную ідэю ў сярэдзіне нулявых ініцыяваў бізнесмен Бадры Патаркацывілі, прапанаваўшы ў якасці сталіцы Гульняў вядомы курорт Баржомі. Але далей слоў справа не пайшла. Канкурэнты Баржомі — Сочы, Зальцбург, Пхенчхан, Алма-Ата — па патэнцыяле, перш за ўсё эканамічным, былі на парадак вышэйшыя за грузінскі горад.

І вось новая спроба, якая таксама будзе мець каласальнае палітычнае значэнне для Грузіі. Атрыманне права праводзіць Алімпіяду можа замацаваць рэжым партыі «Грузінская мара». Варта таксама адзначыць, што нягледзячы на наяўнасць у Грузіі аж шасці зімніх курортаў, зімовыя віды спорту развіты вельмі слаба. На Алімпіядзе ў Паўднёвай Карэі краіна прадстаўлена камандай у складзе чатырох чалавек.

Пакуль усё на карысць алімпійскім амбіцыям Грузіі. Адзіным канкурэнтам ў барацьбе за права праводзіць Алімпіяду ў 2030-м выступае толькі амерыканскі Солт-Лэйк-Сіці, аднак не выключана, што сталіца мармонаў будзе прымаць Гульні ў 2026-м.



### Альберт Рывера

Не выключана, што менавіта лідар ліберальнай партыі Ciudadanos («Грамадзяне») стане наступным іспанскім прэм'ерам.

Такі прагноз дазваляюць рабіць вынікі даследавання сацыялагічнай кампаніі «Metroscopia», апублікаваныя 12 лютага. Паводле статыстыкі партыя Рыверы стала фаварытам на наступных выбарах. Калі іспанцы галасавалі б сёння, Ciudadanos маглі б разлічваць на 28 працэнтаў галасоў выбаршчыкаў.

Асноўны чыннік, які ўзняў рэйтынг «грамадзян» — каталонскі крызіс. Аднапартыйцы Рыверы, якія жорстка выступалі супраць незалежніцкаў, выглядалі больш паслядоўнымі за кансерватараў з урадавай «Народнай партыі» (PP). Імпануе іспанцам і тое, што Ciudadanos намагаецца заняць нішу палітычнага цэнтра, будучы адкрытай для кансультацый як з левымі, так і правымі. Дарэчы, менавіта за кошт кансерватараў «грамадзяне» набіраюць пункты. На цяперашні момант за PP гатовыя галасаваць толькі прыкладна 22 працэнты.

Поспех Ciudadanos выклікае інтарэс ўжо таму, што сама партыя была заснавана толькі ў 2006 годзе групай барселонскіх інтэлігентаў, а Рывера не хавае, што ўжывае какаін. Людзі правых поглядаў гатовыя галасаваць за падобных палітыкаў, а гэта сведчыць пра змену каштоўнасцяў унутры гэтай сацыяльнай групы.

Што тычыцца кансерватараў, то яны ўжо пачалі ўнутраныя дэбаты наконт змены лідара. Калі верыць апытанням, 62 працэнты сяброў PP лічаць, што цяперашні старшыня партыі Марыяна Рахой павінен пайсці ў адстаўку.

# «Як архонт мёртвага горада,

Ала РАМАНЧУК,
Алеся СТАНКЕВІЧ

**Шмат нашых суайчыннікаў дасягнулі сусветнай вядомасці. Адзін з іх— Караль Касцюшка-Валюжыніч — знаны археолаг, заснавальнік і першы дырэктар музея старажытнага Херсанеса.**


Караль Касцюшка-Валюжыніч. Пачатак XX ст.

Херсанес Таўрычаскі — тыповы грэчаскі поліс, заснаваны ў апошняй чвэрці VI ст. н.э., — на працягу 2000 гадоў быў значным палітычным, эканамічным і культурным цэнтрам Паўночнага Прычарнамор'я. Касцюшка-Валюжыніч зрабіў сенсацыйныя археалагічныя адкрыцці, сярод якіх гарадская брама IV ст. да н. э., храм з ківотам, мармуровая стэла з Прысягай херсанесцаў, «базіліка ў базіліцы», вежа Зянона ды шматлікія іншыя.

## «Не хаваю сваёй ліцьвінскай нацыянальнасці»

У некралогу, надрукаваным у 1908 годзе, а таксама ў некаторых іншых літаратурных крыніцах, адзначана, што Караль Касцюшка-Валюжыніч нарадзіўся ў Магілёве, «у старажытнай польскай радавітай сям'і». Гэта не адпавядае сапраўднасці. Ён нарадзіўся 2 мая (20 красавіка па старым стылі) 1847 года ў радавым маёнтку Новае Сяло Дрысенскага павета Віцебскай губерні (цяпер Верхнядзвінскі раён Віцебскай вобласці) у беларускай шляхецкай сям'і. У адным з нядаўна знойдзеных архіўных дакументаў рукою Касцюшкі-Валюжыніча пазначана «...не хаваю сваёй ліцьвінскай нацыянальнасці і рымска-каталіцкага веравызнання».

Дзед Караля браў удзел у драматычных падзеях 1794–1795 гадоў і знаходзіўся не ў апошніх шэрагах змагароў за свабоду пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Бацька ж яго, паводле некаторых звестак, быў таксама неабыякавы да пазнейшых падзей — паўстання 1863–1864 гадоў. Маці Караля звалі Лізаветай. Яна была адукаванай жанчынай і навучыла сына чытаць і пісаць з малых гадоў. Хлопчык з дзяцінства выдатна ведаў нямецкую мову, свабодна цытаваў Генрыха Гейнэ і Ёгана Вольфганга Гётэ; добра валодаў таксама французскай мовай.

Атрымаўшы добрую хатнюю адукацыю, у жніўні 1859 года, ва ўзросце 12 гадоў, Караль Касцюшка-Валюжыніч, сын тытулярнага саветніка, паступіў на падрыхтоўчае аддзяленне (у ліку штатных выхаванцаў) Інстытута Корпуса горных інжынераў. На той час гэта была прэстыжная закрытая вайсковая навучальная ўстанова, якая славілася высокім узроўнем адукацыі.

Няма сумневу, што Караль Касцюшка-Валюжыніч з часам стаў бы выдатным горным інжынерам. Для гэтага ў яго было ўсё — і здольнасці, і імкненне. Але скончыць Горны інстытут яму не давялося. 20 верасня 1865 года ён быў звольнены з 5-га падрыхтоўчага класа — магчыма, праз свае «касцюшкаўскія» ідэалы, а паводле іншых сведчанняў — проста як сваяк вядомага правадыра паўстання.

## Чыгуначнік па ўсёй Расіі

Вярнуўшыся ў Новае Сяло, як сказана ў аўтабіяграфіі, Караль «працаваў на сельскай гаспадарцы ў бацькоўскім фальварку». Праз тры гады, у 1868 годзе, паступіў на працу ва ўправу Дынабург-Віцебскай чыгункі на пасаду памочніка галоўнага інжынера «з прычыны добрага ведання нямецкай мовы».

Праца была звязаная з улікам матэрыяльных каштоўнасцяў. Касцюшку-Валюжынічу даводзілася наведваць Каўказ і Урал, Сярэднюю Азію і Сібір — грузы з таварных цягнікоў часам знікалі, і ён часта выязджаў на неабсяжныя прасторы Расіі па судовых справах. У 1879 годзе Караль паехаў у Севастопаль лячыцца ад хваробы лёгкіх. Там пачаў працаваць ва ўправе Лазова-Севастопальскай чыгункі (спачатку на пасадзе канторшчыка, а пасля — старшага бухгалтара-рахункавода). Паўтара дзясятка гадоў (1867–1881) працаваў на розных участках расійскай чыгункі.

Гады ў сырым Пецярбургу, праца на чыгунцы, няспынныя пераезды драматычна адбіліся на яго здароўі: увосень 1881 года ён пакінуў службу, а ў 1882 годзе перанёс цяжкую аперацыю — з-за абсцэсу яму было выдалена лёгкае. Лекары рэкамендавалі назаўжды пасяліцца ў Крыме, і ён набыў дом у Севастопалі, дзе і пражыў да канца жыцця.

## Ці меў рацыю Страбон?

Цяжка сказаць, калі дакладна наш зямляк зацікавіўся Антычнасцю, але ўжо ў 1882 годзе ён заснаваў Гурток аматараў гісторыі і старажытнасцяў Крыма з музеем і бібліятэкай. Галоўнай задачай гуртка абвяшчалася «ахова ад спусташэння, раскрадання і продажу за мяжу мясцовых старажытнасцяў».

У студзені 1885 года Касцюшку-Валюжыніча абралі намеснікам дырэктара Севастопальскага гарадскога банка (ён заставаўся на гэтай пасадзе да 1890 года). У 1888 годзе, паводле рэкамендацыі віцэ-прэзідэнта Адэскага таварыства гісторыі і старажытнасцяў У. Юргевіча, яго запрасілі да вядзення работ у Херсанесе. К. Касцюшка стаў памочнікам выдатнага расійскага візантыніста Нікадзіма Кандакова, кіраўніка раскопак да 1891 года.

Першыя два гады, як пісаў ён пазней, была адна мэта: сабраць як мага больш цікавых знаходак, каб паказаць значэнне раскопак. І сапраўды, ужо ў першы год работ, у 1888 годзе, удалося выявіць майстэрню па вытворчасці тэракотавых фігур (з мадэлямі), шматлікія фрагменты антычнага посуду, манету III стагоддзя да н.э. — сведчанні ранняга існавання Херсанеса на беразе Карантыннай бухты. І хоць гэта былі яшчэ не самыя старажытныя знаходкі, яны выклікалі сумнеў у сведчанні старажытнагрэчаскага географа і гісторыка Страбона, які пісаў пра два Херсанесы — старажытны і новы.

Касцюшка-Валюжыніч адзначаў: «Невялікія раскопкі 1890 года і тапаграфія мясцовасці паказалі, што ранні Херсанес мог быць толькі на невялікім паўвостраве каля Казачай бухты. Ці доўга існаваў? Ці быў шматлюдным? Адказы адмоўныя. У III стагоддзі да н. э. Херсанес знаходзіўся ўжо там, дзе мы яго бачым у цяперашні час». У ходзе дыскусіі, на вынік якой у значнай ступені паўплывалі археалагічныя даследаванні 1888–1891 гадоў, было даведзена, што Херсанес ад самага пачатку існаваў на тым самым месцы, што і ў рымскі, і візантыйскі перыядах.

## Сенсацыйныя адкрыцці

У 1889 годзе Касцюшка-Валюжыніч распачаў даследаванні адкрытай ім «базілікі ў базіліцы», якая атрымала такую назву ад таго, што пазнейшы храм (X ст.) пабудаваны тут на руінах даўнейшага (VI ст.). Дарэчы, у 2007 годзе дзве мармуровыя калоны і частка ўнікальнай мазаічнай падлогі былі разбураны вандаламі. Хто былі гэтыя вандалы, прэса не называла. Аднак сведкі кажуць, што гэта зрабіў падчас пікніка вядомы «кароль» расійскай эстрады разам з кампаніяй.

Бадай, самая сенсацыйная эпіграфічная знаходка Караля Касцюшкі-Валюжыніча — мармуровая стэла з Прысягай херсанесцаў III стагоддзя да н.э. Верхняя і ніжняя часткі былі знойдзеныя ім у 1890–1891 гадах, а невялікі фрагмент — у 1899 годзе. Даследчык гэтага ўнікальнага помніка В. Латышаў пісаў, што сваёй зазванасцю «клятва херсанесітаў перасягае афінскую», а паводле паўнаты зместу ёй няма роўных на ўсім абшары старажытнагрэчаскай цывілізацыі.

У 1893–1894 гадах Касцюшка-Валюжыніч адкрыў фрагмент старажытнага абарончага муру ў паўднёва-заходнім куце гарадзішча і пачаў яго планамернае вывучэнне. Фартыфікацыйную агароджу Херсанеса да апошніх дзён жыцця ён лічыў адным з самых важных аб'ектаў даследаванняў. Гэтыя раскопкі працягваліся з перапынкамі да 1905 года і вызвалілі ад пазнейшых напластаванняў значны ўчастак фартыфікацыі старажытнага горада.

У 1897 годзе Касцюшка раскапаў вялікі крыжападобны храм, пабудаваны на месцы антычнага амфітэатра. Гэтая старажытная пабудова захавалася і атрымала назву «храм з ківотам», бо ў ім быў знойдзены рэліквар з мошчамі.

Найбольш выніковымі сталі раскопкі 1899–1900 гадоў, якія дазволілі адкрыць старажытную браму, выявіць скляпы з залатымі і срэбнымі ўпрыгожаннямі, якія прыцягнулі ўсеагульную ўвагу на выставе ў Санкт-Пецярбургу.


«Базіліка ў базіліцы». 2004 г. У 2007 г. дзве калоны і частка мазаічнай падлогі былі разбураныя вандаламі


Сядзіба Касцюшкаў-Валюжынічаў. 2006 г.

## Няспынная канфрантацыя

Касцюшку-Валюжынічу даводзілася пераадольваць і супраціў манастырскага начальства, і абыякавасць Вайсковага ведамства, і нават неразуменне кіраўніцтва Археалагічнай камісіі. Праваслаўны манастыр абвінавачваў яго ў «іншавер'і», а праз гэта і ў непаважлівым стаўленні да праваслаўных святыняў Херсанеса. Такая выснова вынікала з таго, што па-першае, Касцюшка вызнаваў каталіцтва, а па-другое, што ён прасіў дазволу даследаваць цэнтральную частку старажытнага горада, якая знаходзілася якраз на тэрыторыі манастыра. Даследчык аргументавана даводзіў, што базілікальныя храмы, якія ён раскопвае, пабудаваныя ў ранневізантыйскі час; яны аднолькава шануюцца і цэняцца і праваслаўнымі, і каталікамі, бо падзел царквы адбыўся пазней, у 1054 годзе. Аднак яго не слухалі.

У антычны час на месцы збудаванняў Вайсковага ведамства знаходзіўся некропаль, таму пры будоўлі батарэй сустракаліся надмагільныя пліты, залатыя і срэбраныя ўпрыгожанні, манеты, посуд для духмяных рэчываў. Касцюшка-Валюжыніч, паведамляючы пра дзейнасць Вайсковага ведамства, бедаваў: «Пры будаўніцтве парахавога склепа работнікі знаходзяць шмат старажытных манет ды іншых дробных прадметаў, з якіх, аднак, да гэтага часу мне не перададзена нічога... Цяпер я даведаўся з пэўнай крыніцы, што ў тых работнікаў старажытныя манеты купляюць! Пры гэтым не магу не звярнуць увагу на тыя абставіны, што нагляд за аховай адкрытых старажытных збудаванняў стаўся немагчымым ад таго часу, як манастыр з усімі сваімі пабудовамі аддзяліўся ад раскопак высокай сцяной і пачаў замыкаць браму, што вядзе да гарадзішча. У выніку херсанескія раскопкі з іх адкрытымі храмамі, капліцамі ды іншымі будынкамі руйнуюцца і забруджваюцца манастырскім статкам, работнікамі і ніжнімі чынамі размешчаных тут вайсковых частак».

Жыццё Караля Касцюшкі-Валюжыніча было нялёгкім, а часам вельмі цяжкім. Усё, што несла шкоду Херсанесу, ён успрымаў як асабістую драму — узвядзенне манастырскіх будынкаў, пабудова артылерыйскіх батарэй на гарадзішчы... Ён змагаўся, як мог, але і з ім змагаліся: адзін з настаяцеляў манастыра пісаў на яго даносы, вінавацячы яго,

# я пасяліўся на яго руінах...»

каталіка, у свядомай варожасці да праваслаўнага манастыра; старшыня Археалагічнай камісіі граф А. Бобрынскі тлумачыў яму, што інтарэсы Вайсковага ведамства стаяць вышэй за археалагічныя; масцітыя вучоныя, бываючы ў Херсанесе праездам, крыткавалі яго ныя раскопкі, што, маўляў, вядуцца без пэўнага плана, і сістэму захоўвання экспанатаў у музеі.

### З марай пра стварэнне музея

Зразумела, у тых умовах стварыць у Херсанесе музей было вельмі складана. І ўсё ж у 1892 годзе ў збудаваным на беразе Каранціннай бухты будынку адкрыўся Склад мясцовых старажытнасцяў. Пры гэтым з Археалагічнай камісіі Касцюшку-Валюжыничу ўвесь час нагадвалі, што «цяперашняя калекцыя Вашага Склада мае часовае значэнне; ніводны спецыяліст не будзе вывучаць херсанескія старажытнасці па злепках і фатаграфіях, калі мае магчымасць вывучаць іх у Маскве ці Пецярбургу па арыгінале...».

Сапраўды, найбольш выдатныя знаходкі штогод накіроўвалі ў Гістарычны музей і Эрмітаж. І ўсё ж Касцюшка лічыў, што Херсанескі музей можа паказваць шмат цікавага. Тут захоўваўся самы багаты збор грэчаскіх і рымскіх надпісаў, узораў разьбы па мармуры розных часоў, калоны, капітэлі; разнастайныя прадметы старажытнага побыту: зброя, упрыгожанні, амфары, тэракотавыя статуэткі, абломкі цудоўных ваз з жывапісам, посуд разнастайных тыпаў і часоў, візантыйскі паліваны посуд, гіркі, шалі, падсвечнікі...

На пачатку XX стагоддзя нарэшце было прынятае рашэнне аб узвядзенні спецыяльнага будынка для музея, але набліжалася руска-японская вайна. І Касцюшка-Валюжыніч разумеў, што ў гэты час цяжка спадзявацца на салі днае фінансаванне будаўніцтва. «Жудасна становіцца ад думкі, што не дажыву да новага музея. А мне так хацелася б самому ўсё ўладкаваць і спарадкаваць у новым будынку. Калі праект стварэння Херсанескай археалагічнай станцыі не сустрэне спачування, то справе далейшага навуковага даследавання Херсанеса будзе нанесены смяротны ўдар. Выхаваўчае значэнне раскопак будзе страчанае, і за Херсанесам застанецца толькі адна роля — пастаўляць матэрыялы для археалагічных архіваў».

### Апошняя экспедыцыя

28 верасня 1907 года каля Ялты-Яліты, на мысе Ай-Тадор, пачаліся раскопкі рымскай фартэцыі Харакс. У часе наведвання гэтых раскопак Касцюшка-Валюжыніч трапіў пад доўгую залеву і прастыў, што мела трагічныя наступствы. Больш за месяц хвароба працякала вяла, але пад канец лістапада абвастрылася. Як на тое, у пакоі, дзе знаходзіўся хворы, было вельмі вільготна і халодна. Моцны запаленчы працэс закрануў адзінае лёгкае. Самаахвярны даследчык не дажыў да адкрыцця асобнага адмысловага будынка для музея. 14 (27 паводле новага стылю) снежня Касцюшка-Валюжыніч памёр ад вострай пнеўманіі і сепсісу ў лякарні Чырвонага Крыжа.

Незадоўга да смерці даследчык пісаў старшыні Маскоўскага археалагічнага таварыства графіні П. Уваравай: «Як архонт мёртвага горада, я пасяліўся на яго руінах, заўсёды знаходжуся там і хацеў бы нават быць пахаваным у Херсанесе, але, як паганец (паводле меркавання тутэйшых святых айцоў), вядома, не заслужыў такога гонару».

Аднак жа ён заслужыў «такі гонар». К. Касцюшка-Валюжыніч быў пахаваны ў двары манастыра, непадалёк ад цэнтральнай плошчы старажытнага горада.

На магіле, на сціплым пастаменце з шэрага каменю, узвышаецца мармуровая калона з раскопак Херсанеса. Яна стаіць як сімвал 20-гадовай працы адналення гісторыі старажытнага горада.

**За ўсю гісторыю вывучэння гарадзішча ніхто не адкрыў столькі помнікаў, не пакінуў пасля сябе такога велізарнага ліставання і дасканалай, з пазіцый таго часу, дакументацыі, як Караль Касцюшка-Валюжыніч**

### Навуковая спадчына

Памёр Касцюшка-Валюжыніч за пару месяцаў да выхаду на пенсію. Ён збіраўся прысвяціць вольны час напісанню грунтоўнай кнігі пра Херсанес, частка раздзелаў якой ужо была створана. Ён добра ўсведамляў сумныя перспектывы свайго здароўя і ўсе апошнія гады працаваў з рукапісамі (на жаль, яны бясследна зніклі ў гады Другой сусветнай вайны).

Вынікі яго дзейнасці ўражваюць. Ён ажыццявіў маштабныя раскопкі плошчы старажытнага горада: адкрыў жылыя кварталы і вуліцы, крамы і майстэрні, грамадскія будынкі і багата дэкараваныя цэрквы з мазаічнымі падлогамі, сістэму водазабеспячэння і капітальныя абаронча збудаванні. Было раскапана больш за 1000 метраў абарончага муру, аснова якога залягала часам на 5-метровай глыбіні, 12 манументальных вежаў, з якіх найбольш вядомай з'яўляецца вежа Зянона, больш за 10 буйных храмаў, шматлікія квартальныя капліцы і каля 2000 пахаванняў на некропалі.

Навуковая спадчына К. Касцюшкі-Валюжыніча складае велізарны архіўны фонд (больш за 5 тысяч адзінак захоўвання) — гэта копіі рукапісных справаздач, накіраваных у Археалагічную камісію, фотаздымкі і чарцяжы, якія дакументуюць працэс раскопак, ліставанне з вядучымі навуковымі ўстановамі, гісторыкамі і прыватнымі асобамі.

Ад самага пачатку раскопак у Херсанесе і да канца зямных дзён Касцюшка-Валюжыніч самааддана служыў любімай справе. За ўсю гісторыю вывучэння гарадзішча ніхто не адкрыў столькі помнікаў, не пакінуў пасля сябе такога велізарнага ліставання і дасканалай, з пазіцый таго часу, дакументацыі, як Караль Касцюшка-Валюжыніч.

Ягоная невычэрпная працаздольнасць і бязмежная любоў да Херсанеса заклалі аснову вядомага цяпер на ўвесь свет запаведніка.

### Херсанескі запаведнік сёння

Херсанескія раскопкі — унікальны гістарычны комплекс і нязменна вабяць да сябе шматлікіх гасцей з розных гарадоў. Гэта не толькі гарадзішча, унесенае ў 2013 годзе ў Спіс аб'ектаў Сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА. Херсанес стаў адным з найбуйнейшых навукова-даследчых цэнтраў, дзе працуюць гісторыкі з розных краін. Сярод пазнейшых даследчыкаў руін Херсанеса можна было б назваць імёны многіх археолагаў, але асновы сістэматычных раскопак заклаў менавіта Караль Касцюшка-Валюжыніч. І яшчэ не адно пакаленне гісторыкаў будзе звяртацца да навуковай і творчай спадчыны першага загадчыка гарадзішча, выкарыстоўваць сабраныя ім матэрыялы і даследаваць помнікі, адкрытыя нашым вялікім суайчыннікам.

З даўніх часоў у студэнтаў, якія прыязджаюць на археалагічную практыку ў Херсанес, існуе традыцыя прамаўляць словы вернасці Херсанесу ля магілы К. Касцюшкі-Валюжыніча, паўтараючы Прысягу херсанесцаў: «Я не здраджу Херсанесу...». Гэтыя словы адлюстроўваюць жыццёвае крэда нашага героя. У адным з пасланняў у Археалагічную камісію ён пісаў: «Я так адданы справе даследавання Херсанеса і, як фанатык, так далёка зайшоў, што вяртання няма! Для мяне развітацца з Херсанесам — усё роўна, што развітацца з жыццём».

### А на радзіме?

Бацькоўскі маёнтак Касцюшкі-Валюжыніча размяшчаўся на правым беразе Дзвіны пры вусці рэчкі Росіца, паблізу сённяшняй беларуска-латвійскай мяжы, побач з мястэчкам Друя. Цяпер гэтае некалі людное паселішча дажывае свой век; старажыхароў тут ужо няма. Пад шатамі лісцёвага лесу — былога прысядзібнага парку — сёння можна пабачыць, але ў вельмі занядбаным стане, тое, што раней было панскай сядзібай, з сажалкай і невялікім азярцом сярод палявога раздолля.

Дом у цэлым захаваў першапачатковы выгляд (размяшчэнне пакояў, аконныя і дзвярныя праёмы, ганак, варыстая печ — усё, як і раней), толькі даўнейшы гонтавы дах стаў шыферны. Аднак з фотаздымка, які пераслаў нам гісторык-краязнавец Антон Бубала, бачна, што стан гэтага дома катастрафічны. Тэрмінова патрабуецца кансервацыя і наданне яму статуса ахоўнага аб'екта гістарычна-культурнай спадчыны.

Спадзяёмся, што з часам радавая сядзіба Караля Касцюшкі-Валюжыніча будзе адноўленая, і ў ёй размесціцца Дом-музей даследчыка Херсанеса Таўрычаскага як філіял Верхнядзвінскага гістарычна-краязнаўчага музея. Тады можна будзе чакаць сюды наплыву турыстаў з розных краін, бо мясціны вельмі прывабныя. Мабыць, з часам у Браслаўскім і Верхнядзвінскім раёнах з'явяцца вуліцы, названыя ў гонар Касцюшкі-Валюжыніча, мемарыяльная дошка і бронзавы бюст на гранітным пастаменце. Ён заслужыў гэта сваёй бязмежнай самаахвярнасцю і адданасцю навуцы.



Антычная брама IV ст. да н. э., адкрытая К. Касцюшкам-Валюжынічам у 1899 г. Верхні ярус — сцены IX ст. Сучасны выгляд



Помнік на магіле Караля Касцюшкі-Валюжыніча (фрагмент мармуровай калоны з раскопак Херсанеса). Сучасны выгляд

Фота з архіву аўтараў

# Ці заўсёды людзі верылі ў каханне?

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Яшчэ гадоў дваццаць таму пра свята ўсіх закаханых у Беларусі амаль ніхто не чуў, а 100 гадоў таму сама канцэпцыя рамантычнага кахання была мала знаёмая большасці насельніцтва.**

Як мала знаёмай? Лірычныя песні пра каханне спявалі, але быў гэта мастацкі вобраз, амаль недасягальны ідэал. Дзяўчаты марылі пра тое, чаго пакуль няма, а замужнія жанчыны — пра тое, чаго ўжо і не будзе. Спатканні і рамантычныя стасункі (у нашым цяперашнім разуменні) павінны былі прывесці да хутчэйшага шлюбу, а звестак пра сямейныя складанасці значна больш, чым пра шчаслівае сямейнае жыццё.

## XIX стагоддзе: прыступка да шлюбу

Каханне, калі не вяло да шлюбу, для дзяўчыны заканчвалася трагедыяй: стратай дзявоцкасці, нараджэннем пазашлюбнага дзіцяці ці нават самагубствам. Таму стаўленне дзяўчыны да рамантыкі на практыцы было прыкладна як у знакамітай песні «Ой, сівы конь бяжыць»: *«А тое кахання ад ночы да рання, як сонейка ўзыдзе — каханне разыдзе»*.

У маладых людзей было літаральна некалькі гадоў для падбору пары, і да таго ж — з вельмі абмежаванага кола асоб супрацьлеглага полу і роўнага маёмаснага становішча. У выпадку ўзнікнення пачуццяў да кагосьці «няроўнага» ў душах абодвух адбываўся не абы-які канфлікт. У песнях дзяўчына просіць хлопца не хадзіць да яе, бо *«ты багат, я бедна»*, а хлопец думае: *«у багатай валы ды каровы, а ў сіраціны — толькі чорны бровы»*. У той жа час, у песнях сустракаюцца радкі: *«Хто бярэ па мілосці, той шчаслівы будзе»*. Можна сказаць, што ў фальклоры, як і ў жыцці, было па-рознаму.

Прынцып «Дай Божа, каб за роўніцу» тычыўся і ўзросту. Шлюб са старэйшым кавалерам, удаўцом лічыўся непажаданым, бо дзяўчына павінна была б выхоўваць чужых дзяцей. У песнях вобраз спакуслівай удавы, якая заваблівае маладога хлопца, таксама падаецца як адмоўны.

З аднаго боку, моладзь рознага полу ў даіндустрыяльнай вёсцы бавіла мала часу разам: час для заляцанняў — танцы, што ладзіліся на святы, удзел у абрадах і вячоркі падчас Піліпаўскага посту перад Калядамі. З другога боку, у вёсцы ўсе і ўсё навідавоку, і нават не кантактуючы шчыльна, маладыя людзі адно аднаго ведалі.

Лічыцца, што ў патрыярхальным грамадстве сексуальныя адносіны да шлюбу былі найстражэйшым табу, інакш дзяўчына лічылася навекі зняважанай. Толькі ў апошнія гады, з «гендарным паваротам» гуманітарных даследаванняў навукоўцы спрабуюць разабрацца, што ж менавіта забаранялася. І выглядае на тое, што толькі практыкі, якія могуць весці да цяжарнасці. Тое, што мы цяпер назвалі б петынгам, не лічылася чымсьці надзвычайным. Сустракаюцца звесткі пра так званыя супольныя «падначоўкі» разнаполых маладых людзей. Гульні з пацалункамі — увогуле звычайная справа, нават гульнявыя вяселлі, тая ж «Жаніцьба Цярэшкі».

Часлаў Пяткевіч у «Рэчыцкім Палессі» прыводзіць слоўцы, якімі палешукі апісвалі стан маладых (і не толькі) людзей: млоснасць (млосьць) — для слабасці, выкліканай палавой пажаднасцю, «хацець» — для ўласна пажаднасці. Аднак, і сексуальныя стасункі маладых людзей у традыцыйнай свядомасці звязваліся з будучым шлюбам. З таго ж «Рэчыцкага Палесся»:

*— А што, доньку, — гаворыць матка, — пацягушкі, спаць хочацца?*

*— Не так, мамко, спаць, як млосьць бярэ, бо вельмі замуж хочацца.*

*— Падажджы, галубка, скоро пойдзеш, калі ўжэ есьцека свій мілы.*

*— Эге! Сягоня нешто было зрабілося з маім любым: то гуляў, гуляў, быў вясёлы і зразу абалванеў; пастаяў трохі, вочы вулупіўшы, а далей сеў, дай чысто ахлён, бы анучка, да толькі перад самым выхадам быццам то трохі разварушыўся.*

*— Ета яго, доньку, млосьць узяла, бо ён тож малады.*

У XIX стагоддзі шлюб лічыўся абавязковым для ўсіх у вясковай супольнасці, і ідэальным каханнем лічылася тое, што да шлюбу прывяло. Неўступленне ў шлюб асуджалася ў штодзённым жыцці і святочным. Напрыклад, на Масленку вядомы абрад вешання калодкі, які «пагражаў» залішне пераборлівым жаніхам ды нявестам: *«Гэта ўжо еслі хто жаніцца сабіраўся, ну, і не жаніўся ў тыя Каляды, ну, значыць, ужэ яму калодку. Ета значыць, што еслі хто не жаніўся ці замуж не пайшла, дак гаварылі, што вам ужэ і калодка»* (в. Бацунь Буда-Кашалёўскага раёна).

Калі да дзяўчыны першы раз прыходзілі сваты, бацькі не спяшаліся аддаць яе замуж. Прасілі, каб прыйшлі яшчэ раз, «зрабілі дзеўцы славу», каб ніхто не падумаў, што дачку хочуць хутчэй збыць з хаты.

Шлюб у традыцыйным грамадстве не меў функцыі забеспячэння эмацыйнай блізкасці, якую мы яму сёння надаём. Сям'я была ў першую чаргу гаспадарчай адзінкай, сродкам легітымна нарадзіць і выхаваць дзяцей, паправіць маёмаснае становішча. Прыхільнасць хлопца і дзяўчыны, мужа і жонкі адно да аднаго, канечне, магла прысутнічаць, але далёка не гэта было першасным.

## XX стагоддзе: міф пра рамантычнае каханне

XX стагоддзе прынесла разбурэнне традыцыйнага вясковага ладу і распаўсюджанне гарадскога, ці «жорсткага» рамансa. У песнях ужо — пра пакінутых дзяўчат, што помсцяць былым палюбоўнікам, забіваюць іх ці ўласных дзяцей. У масавай свядомасці на змену шлюбу прыйшло рамантычнае каханне. З рэвалюцыяй 1917 года ўдзел жанчын у прамысловай вытворчасці з маргінальнай з'явы ператвараецца ў пажаданую на афіцыйным узроўні практыку. У гэты час у савецкіх краінах ствараецца так званы прыватна-дзяржаўны кантракт — «маці, што працуе», які збольшага дзейнічае дасюль. Якое ж месца кахання ў гэтым?

Каханню адводзіцца, з аднаго боку, другасная пасля вытворчага жыцця роля, з другога, яно ўспрымаецца як адзіная «правільная» нагода для шлюбу. Ніякія маёмасныя пытанні маладзёнаў турбаваць не павінны, галоўнае — каханне! Але на практыцы «сапраўднае» каханне здаралася па-ранейшаму рэдка. Часцей савецкаму чалавеку, як калісьці прыгоннаму селяніну, даводзілася выбіраць кагосьці з найбліжэйшага кола знаёмых па працы ці вучобе.

Апяваецца «першае каханне», пад якім зазвычай маюцца на ўвазе платанічныя стасункі школьнай пары. Яны супрацьпастаўляюцца цяжкасцям дарослага жыцця. Песні пад гітару, гулянне ўсю ноч, трымаючыся за рукі, імкненне калі-небудзь «сур'ёзна» быць разам, немагчымасць стаць хутчэй дарослымі і жаніцца — прыкладна такое кола сюжэтаў. Мабыць, маецца на ўвазе, што ўжо другое-та каханне, напэўна, прывядзе да стварэння сям'і. Тут пачынаюцца ў літаратуры і фальклоры сюжэты пра сяброўку-разлучніцу. Грамадска прымальнымі з'яўляюцца знаёмствы на працы і на ўсё тых жа танцах.

Савецкія грамадзяне даволі рана, па цяперашні мерках, жаніліся: пасля сканчэння ВНУ ці ССНУ ці ўжо ў працэсе. У большасці выпадкаў ужо ў першы год у пары з'яўляліся дзеці. Дэманстраваць каханне трэба было падарункамі на Дзень народзінаў, Новы год, дзень вяселля і ў «жаночы» дзень 8 Сакавіка ці «мужчынскі» 23 Лютага. Даследаванні паказваюць, што са свята барацьбы жанчын за свае правы ў «свята кветак» 8 сакавіка ператварылася прыкладна ў 1970-х.

Напрыканцы 1980-х каханне, шлюб і секс пастулова перастаюць устойліва асацыявацца адно з адным.

## XXI стагоддзе: камерцыялізацыя рамантычнага кахання

На пачатку 2000-х у Магілёве Дзень святога Валянціна адзначалі падлеткі і вучні гімназіі з англамоўным ухілам. Мае аднагодкі, што выраслі ў Мінску, таксама не памятаюць, каб свята было масава папулярным сярод дарослых. А ўжо ў 2016-м, седзячы 14 лютага ў стаматолага з разяўленым ротам, раптам чую «З Днём кахання вас, дзяўчаты!» ад прыбіральшчыцы сярэдніх гадоў. І далей пажаданні гэтае каханне знайсці.

Цяпер гэта індустрыя. На 14 лютага прапануюць падарункавыя сертыфікаты і зніжкі, самыя розныя варыяцыі вольнага часу «для дваіх»... На працягу года мы глядзім рамантычныя камедыі і сустракаемся з кімсьці, каб раптам не застацца аднымі ў Дзень святога Валенціна. Бо самотным быць... неяк сорамна, ці што?

Да 14 лютага прымяркоўваюцца шматлікія імпрэзы, як скіраваныя на пошук «палавінкі», кшталту speed dating («хуткія знаёмствы», альбо «знаёмствы ўслепую»), так і арт-праекты, тэматычныя спектаклі і фільмы... Ад істэры вакол абавязковай наяўнасці рамантычнага кахання ў жыцці (якое трэба ж яшчэ неяк уратаваць ад разбівання аб побыт), бадай што, пакутуюць усе: і самотныя маладыя людзі, і пары, што даўно ў шлюбе.

Можна абстрагавацца і па-філасофску ставіцца да пытання «што ёсць каханне, ці ёсць яно?», можна з галавой кінуцца ў святкаванне. Адно аднаму, дарэчы, не замінае. У любым выпадку, рэдакцыя «Новага часу» віншуе чытачоў і зычыць кожнаму знайсці ўласны адказ.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №178

Падпісана да друку 16.02.2018. 8.00. Наклад 2500 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.